


Рэгіянальная газета. Rh.by
25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

17 студзеня 2020 года №3 (1290)

18+

# Вёска Вераб'і: мы ўжо нікому не патрэбныя



У вёсцы Вераб'і Астравецкага раёна засталіся лічаныя мясцовыя жыхары. Тры суседкі самі косяць траву, радуюцца нячастым візітам сваякоў і ўспамінаюць, якім было тут жыццё ў іх маладосць. Жанчыны здзіўляюцца: а што пра нас пісаць? Мы ўжо нікому не патрэбныя.

На фота Гелена Каркуль – адна з нашых трох суразмоўцаў.

старонкі 18-19

Фота Сяргея ЛЕСКЕЦЯ.

## Як малады тата забіраў жонку з радзільні пад жывую музыку

старонка 21



Жыхары Ільі змагаліся за тое, каб іх запраўку не зачынілі. Але дарма. АЗС у Ільі больш няма. Але з'явілася новая і сучасная ў Сосенцы

старонка 3

У Вілейцы пакуль няма кантэйнера для збору пратэрмінаваных лекаў. Таму старымі таблеткамі тут паляць печкі і кормяць свойскую жывёлу

старонка 2

ISSN 1991–7155




Адсканіуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У Літве заявілі, што падрыхтоўка да магчымай аварыі на БелАЭС абыдзецца ў адзін мільярд еўра

АСТРАВЕЦ

Комплекс мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да магчымай аварыі на БелАЭС, што будуюць у Астраўцы, можа каштаваць адзін мільярд еўра. З такой ацэнкай, як паведаміла ў нядзелю нацыянальнае радыё, выступіў начальнік упраўлення грамадзянскай бяспекі супрацьпажарна-выратавальнага дэпартамента пры МУС Літвы **Эдгарас Геда**, піша ТАСС.

– Паводле некаторых папярэдніх дадзеных, гэта можа каштаваць каля 600 мільёнаў еўра. Аднак з улікам шырокага спектра патрэбаў можна выказаць здагадку, што ўвесь кошт, з вывучэння, мог бы скласці да аднаго мільярда еўра, – сказаў ён.

Суму ўдакладняць да канца ліпеня бягучага года. Да гэтага часу плануецца падрыхтаваць спецыяльнае даследаванне. Як сказаў Геда, дэпартамент абвесціць конкурс для прэтэндэнтаў на правядзенне гэтай працы. На праект прадугледжана выдаткаваць 344,6 тысячы еўра, з якіх 327,4 тысячы еўра складуць сродкі Еўрасаюза.

Што менавіта ўваходзіць у комплекс мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да магчымай аварыі, Эдгарас Геда не паведаміў. У кастрычніку 2019 года ў Літве правялі вучэнні нацыянальнага маштабу па адпрацоўцы дзеянняў у выпадку аварыі на БелАЭС з імітацыяй эвакуацыі жыхароў з шэрагу раёнаў краіны.

Акрамя таго ўрад Літвы плануе закупіць чатыры мільёны дозаў ёду ў таблетках, першапачаткова для распаўсюджвання сярод тых, хто знаходзіцца бліжэй да электрастанцыі на мяжы краіны. На гэта плануецца выдаткаваць каля 900 тысяч еўра.

Запуск першага энергаблока БелАЭС плануюць ужо ў гэтым месяцы.

**Паводле ТАСС.**

## У музеі пакажуць калекцыю гузікаў

ВІЛЕЙКА

Выстава працягне летапіс праект музея «Тыдзень калекцыянера. Перазагрузка».

– Выстава розных калекцый дае магчымасць наведнікам пабачыць тыя экспанаты, якія не выстаўляюцца ў пастаянных або часовых экспазіцыях, – расказала карэспандэнту дырэктар музея **Надзея Аўдзей**.

На яе думку, выстава калекцыі – часцей не для шырокага кола. Найперш, для зацікаўленых людзей. На выставе наведнікі пабачаць гузікі, якія выкарыстоўвалі на польскім абмундзіраванні і на штодзённай вопратцы, экспанаты, знойдзеныя падчас археалагічных раскопак. Абяцаюць паказаць нават фібулу – брошку-гузік, якой карысталіся ў сярэднявеччы.

Выстава пачне працаваць ад 28 студзеня па адрасе: Вілейка, плошча Свабоды, 1.

> Калекцыянаванне форменных і звычайных гузікаў, а таксама вывучэнне іх выгляду, надпісаў, сімволікі, матэрыялу, месца і часу стварэння называецца філабутаністыкай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мядзельскія робататэхнікі зноў перамаглі

МЯДЗЕЛ

Каманда гімназіі-інтэрната Мядзела 5 студзеня стала пераможцам lll інжынернага конкурсу Engineering Hexagon.

Удзельнічалі 32 каманды (навучэнцы 12–15 гадоў) з Мінска і іншых гарадоў Беларусі. Было шэсць этапаў: інфарматыка, матэматыка, фізіка, робататэхніка, англійская мова і тэорыя рашэння вынаходніцкіх задач.

Каманду ўзнагародзілі каштоўным падарункам.

**Паводле Мядзельскага райвыканкама.**

## Правядуць трэці этап рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах

МАЛАДЗЕЧНА

Амаль 900 навучэнцаў 8-11 класаў школ, гімназій, устаноў прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Мінщчыны пакажуць свае веды па 18 вучэбных прадметах.

Базамі для правядзення інтэлектуальных спаборніцтваў стануць установы адукацыі Барысава, Вілейкі, Дзяржынска, Жодзіна, Маладзечна, Нясвіжа, Слуцка, Салігорска, Узды і Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі.

Ацэньваць выкананне алімпіядных заданняў будзе кампетэнтнае журы, у склад якога ўваходзяць 180 выкладчыкаў.

**Паводле Упраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.**




Магчыма, у Вілейцы з'явіцца кантэйнер для пратэрмінаваных лекаў.

# Што рабіць, каб пратэрмінаванымі таблеткамі не палілі печкі

## У Вілейцы могуць з'явіцца кантэйнеры для збору пратэрмінаваных лекаў

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта карэспандэнту расказала жыхарка Вілейкі экалагічная актывістка Ларыса Якавюк.**

– Пакуль гэта толькі ідэя, – кажа спадарыня Ларыса. – Цяпер у межах аднаго праекта абіраюць шэсць пілотных гарадоў у Беларусі для размяшчэння такіх кантэйнераў.

Магчыма, у спіс уключаць і Вілейку. Тады такі кантэйнер з'явіцца ў адной з прыватных аптэк горда. Па словах суразмоўцы, утылізацыя пратэрмінаваных лекаў з'яўляецца вялікай праблемай.

### У печку, у каналізацыю, на корм жывёле...

– Многія людзі, не ведаючы, як іх правільна выкінуць, робяць самыя неверагодныя рэчы. Напрыклад, трушчаць таблеткі і змываюць у каналізацыю. Ад фармацэўтычных забруджванняў ачышчальныя збудаванні не ачышчаюць сцёкі. У выніку ўсё гэта трапляе ў рэкі, грунтавыя воды, – тлумачыць суразмоўца.

> А днямі жанчыне расказалі, як некаторыя эканомныя гаспадыні аддаюць пратэрмінаваныя таблеткі разам з ежай свойскай жывёле. Маўляў, каб не прападалі.

Некаторыя вяскоўцы на сустрэчы з актывістамі прызнаюцца, што такія лекі паляць у печцы. І шкодныя рэчывы выдзяляюцца ў паветра.

### Як ад пратэрмінававых лекаў цярпіць прырода

Як паказалі даследаванні апошніх двух гадоў, праблема забруджвання лекамі навакольнага асяроддзя ў Беларусі вельмі актуальная, кажуць спецыялісты сталічнага Цэнтра экалагічных рашэнняў. У складзе сцёкавых водаў буйных гарадоў Беларусі знайшлі рэшткі гарманальных прэпаратаў, антыбіётыкаў, супрацьзапаленчых і многіх іншых лекаў.

> Ачышчальныя збудаванні не здольныя ўлоўліваць маленькія малекулы лекавых сродкаў.

Такім чынам, яны трапляюць у сцёкавыя воды, рэкі і могуць апынуцца ў пітной вадзе. А гэта можа негатыўна адбіцца на здароўі людзей. Фармацэўтычныя забруджвальнікі аказваюць уплыў і на навакольнае асяроддзе, асабліва на насельнікаў вадаёмаў: паніжаюцца рэпрадуктыўныя здольнасці рыб, з'яўляюцца розныя мутацыі. Асабліва шкодныя для вадаёмаў гармоны і антыбіётыкі.

### Дык што рабіць?

Сістэма збору лекаў у Беларусі пакуль наладжаная слаба, адзначаюць спецыялісты. Адпаведныя кантэйнеры ёсць у Мінску, Пінску, Баранавічах. Што ж рабіць з пратэрмінаванымі лекамі?

> Эколагі раяць не купляць таблеткі неабдумана, ствараючы дома вялікія запасы. Калі ж у вашым горадзе пакуль няма спецыяльнага кантэйнера, лепш выкінуць лекі ў кантэйнер з другаснай сыравінай.

Але ні ў якім разе не змываць у каналізацыю.

Некаторы ж вілейчукі пратэрмінаваныя лекі не выкідаюць, а збіраюць. Спадзяюцца на тое, што ў іх горадзе ўсё ж з'явіцца адпаведны кантэйнер.



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# У Сосенцы адкрылі новую запраўку

## А ў Ільі зачынілі старую

ВІЛЕЙКА

**9 студзеня ў 15:00 урачыста адчынілі запраўку ў Сосенцы на Вілейшчыне. На адкрыцці прысутнічала кіраўніцтва раёна.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Уезд на былую АЗС у Ільі загарадзілі стужкай.

Будаваць новую АЗС у Сосенцы, што ў Крывасельскім сельсавеце, пачалі ў пачатку мінулага года. Праект новай запраўкі выносілі на грамадскае абмеркаванне. АЗС магутнасцю 250 аўтамабіляў за суткі будзе працаваць кругласутачна нафтапрадуктамі – дызельным палівам, АІ-92, АІ-95, у зімовы перыяд – дызельным палівам «Арктыка». Ёсць таксама гандлёвая зала, кафетэрый, паркоўка, пост падпампоўвання шын, пыласос.

**На ўездзе на АЗС усталявалі адмысловую скульптуру – русалку, гераіню легендаў Вілейшчыны.**

На АЗС працуюць 16 работнікаў. Гэта не новыя людзі. Усе яны працавалі на іншых АЗС. Сюды перайшло і некалькі супрацоўнікаў з Ільі.

Запраўка ў Ільі 9 студзеня працавала апошні дзень. Пакуль будынак яшчэ стаіць, але аб'ява на ім паведамляе, што АЗС №15 не працуе ад 23:59 9 снежня. Бліжэйшая АЗС №45 у вёсцы Сосенка.

**Нагадаем, што ў лістападзе да нас звярталіся чытачы з Ільі і навакольных вёсак, якія непакоіліся, што з адкрыццём запраўкі ў Сосенцы зачыняць ільянскую.**

І ільянцам стане вельмі нязручна ездзіць за 14 кіламетраў, каб заправіць машыны, матаблокі і бензапілы. Так урэшце і сталася.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Уважаемые клиенты!
КАЗС №15 прекращает свою работу
9.01.2020г в 23.59 ближайшая АЗС
АЗС №45 д.Сосенка
Вилейский р-он ,ул.Васильковая 1Б



Фота mlyn.by.

Скульптура Русалкі сустракае кіроўцаў ля новай АЗС у Сосенцы.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 9.01 | 16.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1138 | **2.1248** |
| Еўра | 2.3547 | **2.3649** |
| Злоты, 10 | 5.5445 | **5.5917** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4205 | **3.4582** |
| Грыўня, 100 | 8.8769 | **8.8506** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **8.01** | **15.01** |
| Еўра | 2.3400/2.3700 | **2.3300/2.3800** |
| Долар ЗША | 2.1050/2.1300 | **2.0950/2.1400** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **8.01** | **15.01** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | – | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | – | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,00 | **7,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,55** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | – | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 7,00 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,80 | **4,50** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 5,50 | **6,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У першы дзень новага года збілі пешахода

ВІЛЕЙКА

ДТЗ адбылося 1 студзеня каля сямі вечара ў Любані.

61-гадовы жыхар Мядзельшчыны ехаў на «Пежо-87» па аўтадарозе Мінск–Маладзечна–Нарач у накірунку Мядзела. У Любані кіроўца наехаў на 39-гадовага пешахода, расказалі ў Вілейскім РАУС.

Пацярпелы быў без флікера і ішоў па дарозе. Яго забралі ў траўматалагічнае аддзяленне Вілейскай ЦРБ.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Прахожыя выбілі акно і выцягнулі з агню гаспадыню

МЯДЗЕЛ

Пра пажар у Будславе мядзельскім выратавальнікам паведамілі 8 студзеня каля 14:20. Сказалі, што гарыць жылы дом на вуліцы Кірава.

**Калі першае падраздзяленне прыехала на месца, дом гарэў адкрытым полымем. 90-гадовую гаспадыню з агню ўратавалі прахожыя.**

– Першым пажар заўважыў мужчына, які на машыне праязджаў па вуліцы. Ён разбіў цэглай шыбу ў акне і пачаў выцягваць гаспадыню-пенсіянерку, якая ўжо спрабавала выпаўзці сама. Пасля яму дапамог іншы прахожы, – расказала карэспандэнту інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС **Ірына Карапецян**.

Агонь так пашкодзіў дом, што жыць у ім немагчыма. Хутчэй за ўсё, гаспадыня будзе жыць у дзяцей, кажа Ірына.

Прычыну пажару высвятляюць. Магчыма, дом загарэўся з-за няправільнага выкарыстання печкі.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Астраўчанін наехаў на апору, а потым перакуліўся на аўто

АСТРАВЕЦ

Вечарам 9 студзеня ў Астраўцы на вуліцы Прамысловай перакуліўся легкавы аўтамабіль.

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося каля 20:00. Астраўчанін ехаў на аўтамабілі «Фольксваген-Пасат», не справіўся з кіраваннем і наехаў на апору лініі электраперадачы. У выніку машына перакулілася і атрымала механічныя пашкоджанні.

Кіроўца з лёгкімі траўмамі шпіталізаваны ў цэнтральную раённую бальніцу. Прычыны ДТЗ высвятляюць.

Паводле ostrovets.by.

## 11-гадовая дзяўчынка загінула ў ваннай, падзараджаючы тэлефон

Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь паведамляе, што 11 студзеня ў адной з кватэр шматкватэрнага дома ў Мінскай вобласці бацька знайшоў сваю дачку ў ваннай без прыкмет жыцця.

**Эксперты ў ходзе агляду месца здарэння знайшлі на целе дзіцяці пашкоджанні, характэрныя для электратраўмы.**

У ваннай быў падлучаны да разеткі падаўжальнік з падлучаным зарадным, якое заряджала мабільнік.

Следчыя праводзяць праверку, разглядаюць усе версіі таго, што здарылася, прыярытэтная з якіх – невыкананне правілаў бяспекі. Для ўстанаўлення прычыны смерці прызначаная судова-медыцынская экспертыза.

Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

## П'яны кіроўца збіў жанчыну

АСТРАВЕЦ

П'яны кіроўца збіў жанчыну-пешахода на трасе пад Астраўцом. Пра гэта БЕЛТА паведамілі ва ўпраўленні ДАІ

Аварыя адбылася каля чатырох гадзін раніцы 12 студзеня. «Фольксваген-Пасат», якім кіраваў 26-гадовы мужчына, ехаў па трасе Полацк–мяжа Літоўскай Рэспублікі. На ўчастку паміж вёскамі Бярозаўка і Варона Астравецкага раёна легкавушка збіла пешахода.

– 36-гадовую пацярпелую з пераломамі абедзвюх ног і закрытай чэрапна-мазгавой траўмай шпіталізавалі, – распавялі ў ДАІ рэгіёна.

Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.



Фота забяспечана Таццянай БЕЛАНОГ.

Месца, дзе знайшлі труп маладзечанца.

# Труп ураджэнца Маладзечаншчыны знайшлі пад Мінскам

МАЛАДЗЕЧНА

**Следчыя Мінскага раёна ўстанаўліваюць абставіны супрацьпраўных дзеянняў, з-за якіх памёр 34-гадовы ўраджэнец Маладзечаншчыны ў Мінскім раёне.**

8 студзеня следча-аператыўная група выбыла ў вёску Латыгаўка Мінскага раёна. Тут, у двары аднаго з прыватных дамоў, яны знайшлі цела 34-гадовага ураджэнца Маладзечанскага раёна без прыкмет жыцця.

У ходзе агляду месца здарэння, цела загінулага і іншых следчых дзеянняў спецыялісты даведаліся, што смерць мужчыны мае крымінальны характар. Па факце ўзбудзілі крымінальную справу па частцы 3 артыкула 147 Крымінальнага кодэкса – наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

Па падазрэнні ў злачынстве затрымалі 42-гадовага мясцовага жыхара.

– Падазраваны раней не быў судзімы, працуе ў доме ў сужытніцы і працуе зваршчыкам, – расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог.**

**Па дадзеных следства, напярэдадні пацярпелы са сваёй знаёмай гасцявалі ў падазраванага. Распівалі спіртное, потым здарыўся канфлікт.**

У выніку гаспадар некалькі разоў стукнуў госця рукамі па галаве. Пацярпелы пайшоў з дома, а раніцай яго выявілі без прыкмет жыцця.

Следчыя працуюць з затрыманым, сведкамі, праводзяць комплекс следчых і іншых працэсуальных дзеянняў. Прызначаная судова-медыцынская экспертыза, каб устанавіць прычыну смерці, і іншыя даследаванні. Канчатковую прававую ацэнку дадуць па выніках расследавання.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Мужчыны выкралі хлопца, абматалі тросам і пагражалі ўтапіць у рацэ

АШМЯНЫ

У Ашмянах завяршылі расследаванне крымінальнай справы аб незаконным пазбаўленні волі 19-гадовага хлопца.

Ноччу 31 ліпеня мінулага года 52-гадовы мужчына з 23-гадовым сынам у адной з вёсак Ашмянскага раёна ўварваліся ў прыватны жылы дом.

– Яны шукалі 19-гадовага хлопца, якога падазравалі ў выкраданні ім тытунёвых вырабаў, – распавяла **Іна Пазьняк**, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці.

Пазней яны разам з яшчэ двума мужчынамі пасадзілі хлопца ў аўто і вывезлі на пустку.

Там адзін з фігурантаў стаў абмотваць выкрадзенага буксіровачным тросам, пры гэтым пагражаў ўтапіць у рацэ.

**– Пасля таго як удзельнікі выкрадання перакаваліся ў тым, што 19-гадовы хлопец не валодае значнай для іх інфармацыяй – прывезлі яго назад у горад і адпусцілі. Усе пагрозы ён успрымаў рэальна, – адзначыла Іна Пазьняк.**

Падчас расследавання следчыя агледзелі месца здарэння, дапыталі сведкаў. З удзелам пацярпелага правялі праверку паказанняў на месцы, атрымалі заключэнне экспертызы, прагледзелі запісы камер відэаназірання.

– Прыператрусе дома ў 52-гадовага абвінавачанага выявілі дзве вінтоўкі і чатыры патроны.

**Устаноўлена, што пасля набыцця агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў мужчына незаконна іх захоўваў, – праінфармавала Іна Пазьняк.**

Ашмянскі раённы аддзел Следчага камітэта чацвярым мужчынам прад'явіў абвінавачанне па ч.1 арт. 183 КК (незаконнае пазбаўленне волі). Двое з іх абвінавачваюцца і па ч. 1 арт. 202 КК (незаконнае ўварванне ў жыллё насуперак волі асоб, якія ў ім пражываюць).

52-гадоваму мужчыну таксама прад'яўленае абвінавачанне па ч. 2 арт. 295 КК (незаконныя набыццё, захоўванне агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў).

Крымінальная справа перададзеная пракурору для накіравання ў суд.

Паводле БелТА.




Арганізатары прэміі «Зрабілі!».



Ганну Холад (злева) і Вікторыю Макаранку ўганаравалі за ініцыятыву InspiredByРэгіён.



Сяргей Гапон арганізаваў талаку па прыборцы яўрэйскіх могілкаў.



У намінацыі «Тэхналогіі для грамадства» актывістаў узнагароджвае намеснік галоўнага рэдактара «РГ» Зоя Хруцкая.

# У Мінску ўзнагародзілі актывістаў, якія «Зрабілі!»

**Імпрэза па ўганараванні прадстаўнікоў ініцыятыў прайшла 10 студзеня ў Мінску. Арганізатарамі ўзнагароды сталі Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацыі, «Жывая бібліятэка», агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч», «Рэгіянальная газета» і выданне «Vitebsk4.me».**

Імпрэзу ладзяць для таго, каб адзначыць, наколькі важна тое, што робяць актывісты ў розных галінах. Сярод узнагароджаных за актыўнасці 2019 года два прадстаўнікі нашага рэгіёна. Удзельнікі прадстаўлялі розныя намінацыі. Усіх узнагароджвалі, а тры ініцыятывы адзначалі дадаткова як самыя яскравыя.

Намінацый было пяць: Youth Power, «Гендар – гэта пра ўсіх», Grass Roots («Нізавая ініцыятыва»), All Inclusive («Усё ўключана»), «Тэхналогіі для грамадства».

### Арганізавалі супрацоўніцтва актывістаў

У намінацыі Youth Power сярод узнагароджаных стала ініцыятыва InspiredByРэгіён. Яе арганізавалі **Ганна Холад** і **Вікторыя Макаранка**.

InspiredByРэгіён – гэта праект, які стварылі для абмену досведам і развіцця супрацоўніцтва мясцовых актывістаў. Дзякуючы знаёмству і сустрэчам абмяркоўваюць магчымыя рашэнні розных мясцовых праблем. Арганізатары ладзілі шэраг мерапрыемстваў, якія аб'ядноўвалі актыўных людзей, якія гатовы мяняць штосьці не толькі ў сваім жыцці, але і ў мясцовасці, дзе жывуць.

**Дзякуючы абмену досведам удзельнікі вучацца арганізоўваць мерапрыемствы і ладзіць для сваёй мясцовасці імпрэзы, якія лічаць патрэбнымі.**

Ініцыятыва зладзіла шэраг мерапрыемстваў. Сярод іх – сустрэча «Бізнес vs Сацыяльнае прадпрымальніцтва» і FuckUp Night («Ноч правалаў»).

### Сабралі талаку ў Крэва

У намінацыі «Нізавыя ініцыятывы» ўзнагародзілі **Сяргея Гапона**, які арганізаваў талаку па прыборцы яўрэйскіх могілкаў у Крэве.

Сяргей распавёў, што сабраў каля 20 чалавек, якія зграбалі лісце, абразалі кусты. Пасля прыборкі сталі больш бачныя помнікі, зручней стала хадзіць па могілках.

Арганізатар патлумачыў, што хаця і атрымаў узнагароду «Зрабілі!», на могілках выканалі толькі трэць работы. Ён плануе працягнуць працу летам, запрасіць на тыдні два валанцёраў і закончыць прыборку.

– Мы хацелі б прыбраць усю тэрыторыю і расчысціць помнікі, – дзеліцца Гапон.

**– На камянях ёсць надпісы, таму спатрэбіцца акуратна зняць мох, каб іх не пашкодзіць. Расшыфруем надпісы, даведаемся, хто пахаваны на могілках. А гэта вельмі каштоўна для нашчадкаў.**

Калі даведваліся пра талаку, то многія пыталіся, навошта маладому мужчыну гэтым займацца, няўжо і ён сам мае яўрэйскія карані? Меркаваныя нашчадкі пахаваных дзякавалі і пыталіся, чым могуць дапамагчы, каб справа ішла далей. Сяргей тлумачыць, што ў першай палове 20 стагоддзя Крэва было мястэчкам, значная роля ў жыцці якога належала яўрэям. Вывучэнне помнікаў дазволіць даведацца, кім былі жыхары мястэчка, і дасць большае разуменне пра Крэва таго часу.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

**• АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 51/29/8,1; на 3 паверсе цаглянага дома. Т. (8-029) 7671747.

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Касманаўтаў, д.11. Т. (8-033) 6384522.*

• Гараж у ГК-13 Маладзечна, вул.Міру. Т. (8-029) 1575292.*

• Гараж у ГК-18 Маладзечна. Т. (8-033) 6384522.*

• Гараж у ГК-24 Маладзечна, р-н «Электрамодуля». Цана 14 700 рублёў. Т. (8-029) 6148247.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кубак з вашым фота – 9 руб. Ёсць кубак з відамі Смаргоні – 6 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-01592) 44717.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

## РОЗНАЕ

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-16 з дакументамі на поўным ходзе, у ідэальным стане. Самазвал. Т. (8-044) 4668615.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козы высокаўдойныя акотныя. Цана дагаворная. Т. (8-044) 7462476.*

**Іншае**

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Грузчык акажа дапамогу. Т. (8-029) 8761612.*

• Зборка мэблі. Т. (8-029) 8761612.*






PARTIZANY злева направа: Андрэй Дашкевіч, Мікалай Халадзінскі, Андрэй Кажан.

Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

# «Мы – партызаны музычнага руху». PARTIZANY зладзілі сольную акустыку ў Маладзечне

**12 снежня маладзечанскі гурт PARTIZANY зладзіў сольны акустычны канцэрт. Імпрэза стала першым для музыкантаў выступленнем пад новай назвай.**

Гурт стварылі ў 2011 годзе навучэнцы музычнага тады яшчэ вучылішча імя Агінскага і іх сябры. Да 2020 года калектыў меў назву DSF. Гэта абрэвіятура ад італьянскага «deciso sforzando» – у перакладзе «рашуча, раптоўна гучна». Назву вырашылі памяняць, бо, як сцвярджаюць музыканты, былую назву цяжка было запомніць, а іх творчасць – складана знайсці ў інтэрнэце. Чаму менавіта PARTIZANY?

«У нейкім сэнсе, мы адчуваем сябе партызанамі музычнага руху», – заяўляюць маладзечанцы.

Сёння ў складзе гурта іграюць бас-гітарыст **Андрэй Сватко**, вакаліст і гітарыст **Андрэй Кажан**, гітарыст **Андрэй Дашкевіч** і бубнач **Мікалай Халадзінскі**. «Акрамя музыкі, нас шмат што аб'ядноўвае. Хоць мы вельмі розныя, але ўсе ў першую чаргу сябры і музыканты, аб'яднаныя агульнай ідэяй», – кажуць удзельнікі гурта. За дзевяць год існавання калектыву склад змяняўся, у розныя часы ў гурце таксама ігралі **Кірыл Бельскі** і **Аркадзь Казырскі** (бубны), **Павел Лічко** (сола-гітара).

PARTIZANY прызнаюцца, што прыбытку іх музыка пакуль не прыносіла. Але, кажуць, крыху зарабляць было б някепска, бо трэба выдаткоўваць сродкі на інструменты, рэпетыцыі, дарогу, не кажучы пра запісы і кліпы. Таму кожны ўдзельнік гурта, акрамя музыкі, мае сталую працу. «Сярод нас ёсць праграміст, таксіст, былы супрацоўнік МНС, грузчык, рознарабочы», – распавядаюць музыканты.

На рахунку гурта – выступленні на разнастайных фестывалях, конкурсах, кватэрніках, у клубах і нават вулічных пляцоўках. Былі і сольныя канцэрты. Музыканты стварылі больш за 50 песень, запісалі альбом, у які ўвайшло дзесяць трэкаў. «Некаторыя нашы песні яшчэ ніколі не выконваліся публічна», – прызнаюцца PARTIZANY.

Канцэрт, які прайшоў у адным з маладзечанскіх бараў, зладзілі досыць спантанна.

**Як сцвярджаюць музыканты, большая частка праграмы сталася імправізацыяй.**

Акрамя ўласных песень, гурт выканаў уласныя інтэрпрэтацыі твораў Metallica, Radiohead, «Король и Шут» і іншых вядомых рок-камандаў. Імпрэза доўжылася каля дзвюх гадзін і сабрала некалькі дзясяткаў чалавек. Некаторыя сталі выпадковымі слухачамі – і засталіся прыемна ўражанымі, калі даведаліся, што на сцэне – не сталічныя госці з вядомым імем, а маладзечанскія хлопцы, якія ствараюць якасную музыку.


Гледачы на канцэрце.

«Наша самае вялікае дасягненне – мы ўсё яшчэ трымаемся», – сцвярджаюць музыканты. Хоць і былі перыяды цішыні па некалькі месяцаў. Апошняя такая паўза расцягнулася ажно на тры гады, і зусім нядаўна з новымі сіламі PARTIZANY ўзяліся за справу.

«Мы плануем іграць як мага больш і адкрытыя для супрацоўніцтва», – заяўляюць удзельнікі гурта. І заклікаюць падтрымліваць маладыя гурты: хадзіць на канцэрты, удзельнічаць у музычным руху свайго горада і Беларусі.

Дарэчы, 15 студзеня PARTIZANY сталі спецыяльнымі гасцямі «Свабоднага мікрафона» ў мінскім клубе «Графіці».

**Ігар ПАЛЫНСКІ.**

# Эдзіта Бранцэвіч: «Люблю натхняцца і стараюся натхняць»

## У рэдакцыі ўзнагародзілі пераможцу ў намінацыі «Натхненне года»

СМАРГОНЬ

**– «Рэгіянальная газета» – выданне, якому я аддаю перавагу. Інфармацыя тут праўдзівая, актуальная, своечасовая. Да газеты я маю найбольшы давер, – з такіх кампліментаў пачала гутарку пераможца ў намінацыі «Натхненне года» нашай акцыі «Асоба года-2019» жыхарка Смаргоні Эдзіта Бранцэвіч.**




Фота Настассі УТКІНАЙ.

Галоўны рэдактар «Рэгіянальнай газеты» ўручае пераможцы фірменны парасон.

14 студзеня мы ўзнагародзілі яе ў рэдакцыі, а таксама пагутарылі пра перамогу, яе працу выхавальніцай у беларускамоўнай групе садка №8, што ў Смаргоні.

### З выхаванцамі – як з каханнем

– Я падпісаная на старонку «Рэгіянальнай газеты» ў сацсетках. Заўсёды праглядаю навіны. Убачыла загаловак, што абралі асобу года. Я штогод сачу за гэтай акцыяй. Таму вырашыла пачытаць артыкул. І вельмі ўзрадавалася, калі сярод пераможцаў убачыла сябе. Апанаваў нейкі ўзнёслы настрой. На эмоцыях размясціла артыкул у сябе на старонцы, каб усе ведалі і віншавалі. Асабліва прыемна, што трапіла ў намінацыю «Натхненне года». Вельмі люблю натхняцца ад другіх людзей і цікавых ідэй і стараюся натхняць, – падзялілася Эдзіта Эдуардаўна.

**Летась выхавальніца выпусціла сваю беларускамоўную групу ў школу. Расказала, што адносіны і з былымі выхаванцамі, і з іх бацькамі засталіся вельмі цёплыя.**

Прызналася нават, што цяжкавата было пасля тых, ранейшых дзяцей, прывыкнуць да новай групы, сумавала.

– З выхаванцамі як з каханнем. Калі ты сапраўды кахаеш некага, то кахання на іншага ўжо не хопіць. Атрымлівалася, што новую групу мне далі, а сэрца засталося з тымі дзецьмі, – кажа суразмоўца. – Нават першага верасня ўяўляла, як мае дзеці стаяць на лінейцы, як паводзяць сябе, як хвалююцца, як мамы радуюцца, бо ведаю ж характар кожнага. Праўда, бацькі малайцы: кожнага пафатаграфавалі на лінейцы і скінулі мне фотаздымкі.

### Як гэта няпроста: адпусціць былых выхаванцаў

Цяпер выхавальніца з прыемнасцю прымае водгукі бацькоў пра тое, што дзеці лепшыя ў класе па беларускай мове. А некаторыя і ўвогуле прыйшлі з беларускамоўнай групы з цалкам засвоенай праграмай па мове для першага класа. А яшчэ дзякуючы заняткам у садку дзеці добра ведаюць пра старажытныя беларускія замкі. І ў музеі, кажа выхавальніца, могуць нават экскурсавода здзівіць.

– Урэшце прыйшла да таго, што былых выхаванцаў трэба неяк адпусціць. Пачала займацца мэтанакіраванай працай з новай групай. Наведвала кожную сям'ю, знаёмілася з бацькамі. Цікава было даведацца, з якой мэтай бацькі абіраюць беларускамоўную групу.

Па назіраннях спадарыні Эдзіты, прычыны розныя. Хтосьці ідзе выпадкова, хтосьці менавіта да выхавальніка. Ёсць і такія, што ідуць менавіта дзеля мовы. Нават пераходзяць з іншых садкоў. Цяпер з-за будаўніцтва БелАЭС на суседняй Астравеччыне ў Смаргонь прыязджаюць людзі з іншых краін. Таму сярод новых выхаванцаў беларускамоўнай групы ёсць і рускія, і ўкраінцы.

### І суполка ў вайберы – у дапамогу

Бацькі новых дзяцей падтрымліваюць выхавальніцу з яе ідэямі. Не так даўно зладзілі выставу, на якую кожная мама зрабіла ляльку. Цацкі атрымаліся вельмі розныя і на выгляд, і па матэрыяле. Цяпер дзеці разглядаюць іх, пра кожную прыдумваюць казку, вывучаюць матэрыял, з якога зробленая лялька. І нават нюхаюць, бо ўнутры некаторых цацак – духмяныя зёлкі.

Вельмі дапамагае суполка ў вайберы. Інфармацыйныя стэнды ў групе ёсць таксама, але бацькі не заўсёды маюць час, каб прачытаць на іх інфармацыю. Вайбер больш зручны. Калі ёсць нейкія сучасныя вынаходніцтвы, імі варта карыстацца, лічыць выхавальніца. Нехта знайшоў добрую кніжку па беларускай мове ці развіццёвую гульню – і ў суполку.

### Зацікаўленасць культурай пачалася з мовы

Заняткі, гульні, песенькі – усё ў групе па-беларуску. І ранішнікі, у тым ліку.

– Навошта вучыць дзяцей мове штодзень, калі публічныя мерапрыемствы – святы, ранішнікі – праводзіць па-руску? – не разумее суразмоўца.

Так, добрых сцэнарыяў на беларускай мове амаль няма. Таму дзякуючы ўласным творчым здольнасцям мусіць сама і перакладаць, і рыфмаваць.

Сама Эдзіта Бранцэвіч беларускай культурай зацікавілася не так даўно, прыкладна гады чатыры таму. Якраз тады, калі пачала працаваць у беларускамоўнай групе.

– Пачалося ўсё з мовы. Захацела вывучыць жывую, не калькаваную з рускай беларускую мову, валодаць ёй больш упэўнена. Мову пачала вывучаць неразрыўна з культурай і гісторыяй Беларусі. Гэта зацягнула. А мова і культура вельмі звязаныя. Бо ў беларускай культуры ёсць такія з'явы, падзеі, якія проста немагчыма назваць па-руску.

Часам Эдзіта Эдуардаўна чуе пытанні, чаму абрала для працы ў групе беларускую культуру і этнаграфію, а не іншы накірунак: экалагічны або эканамічны.

– Напэўна, каб узялася за экалогію ці эканоміку, у мяне б таксама атрымалася. Я наведала шмат розных добрых трэнінгаў і курсаў па маркетынгу і экалогіі. Але гэтымі тэмамі можна было б займацца і па-руску, – тлумачыць жанчына.

### Адкуль у сям'і шмат педагогаў

Наша пераможца родам з Міхалішак, што на Астравеччыне. Не так даўно пачала займацца вывучэннем сваіх каранёў. Кажа, ведае яшчэ няшмат. Калі былі маладыя бабулі, нічога не пыталася. А цяпер і запытаць амаль няма ў каго.

Вывучаючы ўласныя карані, Эдзіта Эдуардаўна даведалася, што яе прабабуля мела дыплом педагога з Інстытута шляхетных дзяўчат, і знайшла адказ на адно важнае пытанне.

– Усё думала і ніяк не магла зразумець, адкуль у нашай сям'і столькі педагогаў.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «1917» – галоўны драматычны фільм года



Фота seattletimes.com.

**Рэжысёрам і прадзюсарам «1917» стаў Сэм Мэндэс. Гэта гісторыя пра двух маладых брытанскіх салдат падчас Першай сусветнай вайны. Вясной 1917-га яны атрымалі заданне данесці паведамленне пра засаду пасля адступлення Германіі на лініі Гіндэнбурга падчас аперацыі Альберых.**

## Стварэнне фільма

Сэм Мэндэс кіраваў праектам і пісаў сцэнарый разам з Крысты Уілсан-Кёрнс. Гісторыя кіно грунтуецца на «фрагменце», які Альфрэд Мэндэс распавёў унуку Сэму Мэндэсу. У жніўні 2019 года Мэндэс сказаў: «Гэта гісторыя пасланца, якому трэба даставіць паведамленне. І гэта ўсё, што я магу сказаць. Мне расказалі пра гэту гісторыю ў дзяцінстве».

Здымкі фільма пачаліся ў красавіку 2019 года і працягваліся да чэрвеня ў Шатландыі. Стужку рабілі доўгімі дублямі, каб надаць «1917» эфект бесперапыннай здымкі.

## Сюжэт

У разгар Першай сусветнай вайны ў красавіку 1917 года на поўначы Францыі двум маладым брытанскім салдатам, Скофілду і Блэйку, даручылі даставіць паведамленне 2-му батальёну Дэваншырскага палка. Немцы рыхтавалі засаду на батальён 1600 чалавек, сярод якіх быў брат Блэйка.

Скофілд і Блэйк перасякаюць нейтральную тэрыторыю і даходзяць да нямецкага фронту, палічыўшы акопы закінутымі. У траншэях аказваюцца міны, адна з іх спрацоўвае. Наступны выбух амаль забівае Скофілда: ён выжывае дзякуючы Блэйку, які выкопвае яго са смецця і выводзіць з бункераў.

Абодва прыязджаюць у закінуты дом у сельскай мясцовасці. Нямецкі самалёт разбіваецца каля фермы, а Скофілд і Блэйк спрабуюць выратаваць збітага лётчыка. Скофілд плануе забіць пілота, але Блэйк замест гэтага дае вады лётчыку. Пілот смяротна ўдарыў Блэйка, немца застрэліў Скофілд. Скофілд суцяшае Блэйка, калі ён памірае, абяцаючы выканаць місію.

Скофілд дабіраецца да Экуста разам з брытанскім атрадам. У горадзе яго спрабуе забіць снайпер, але яму гэта не ўдаецца, ён толькі раніць брытанца. Скофілд натыкаецца на сховішча, дзе хаваюцца францужанка з немаўляткам. Жанчына лечыць яго.

Скофілд дасягае 2-га батальёна раніцай перад самым нападам брытанцаў. У канчатковым выніку ён прабіваецца насустрач камандзіру батальёна палкоўніку Макензі, і атаку адмяняюць.

## Водгукі крытыкаў

На сайце аглядаў Rotten Tomatoes фільм мае рэйтынг адабрэння 90% на аснове 296 аглядаў. Крытычны кансэнсус сайта абвяшчае: «Уражальнае, пагружальнае і ўражлівае тэхнічнае дасягненне «1917» захоплівае акопную вайну Першай сусветнай вайны з неапрацаванай, дзіўнай непасрэднасцю».

## Узнагароды

«1917» атрымаў тры намінацыі на «Залаты глобус» і заваяваў дзве – «Лепшая кінастужка-драма» і «Лепшы рэжысёр». Фільм таксама атрымаў восем намінацый на прэмію «БАФТА».

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**







## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 20 ЯНВАРЯ

**7.00, 15.25, 18.55, 21.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.30** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«МАММА МИА».**
**9.20** Х/ф **«РЕНУАР».**
**11.10** Х/ф **«ОТКРЫТОЕ МОРЕ».**
**12.30** Х/ф **«МЕБИУС».**
**14.20** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.35** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.15** Х/ф **«ВИКИ. КРИСТИНА, БАРСЕЛОНА».**
**19.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**19.50** Т/с **«ДУБЛИНСКИЕ УБИЙСТВА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ТРЕНЕР».**
**23.15** Х/ф **«ТИХООКЕАНСКИЙ РУБЕЖ».**
**1.20** «Погода»+ «Эрана».

### ВТОРНИК, 21 ЯНВАРЯ

**7.00, 15.25, 18.55, 21.05, 0.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.30** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ЗАТЕРЯННЫЙ ГОРОД Z».**
**9.45, 19.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.30** Д/с «Большой скачок».
**11.00** Х/ф **«ТРЕНЕР».**
**13.15, 19.50** Т/с **«ДУБЛИНСКИЕ УБИЙСТВА».**
**14.20** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.35** «Мульт-парад».
**16.00** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**16.25** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.10** Х/ф **«КОЛЕСО ЧУДЕС».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СПИРАЛЬ».**
**22.50** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК».**

### СРЕДА, 22 ЯНВАРЯ

**7.00, 15.10, 18.45, 21.05, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт- парад «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.15** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК».**
**9.45, 18.50** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.30** Д/ф «ДИКАЯ АРКТИКА».
**11.20** Х/ф **«СПИРАЛЬ».**
**13.00, 19.45** Т/с **«ДУБЛИНСКИЕ УБИЙСТВА».**
**14.10** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.20** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.05** Х/ф **«СВЕТСКАЯ ЖИЗНЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ОДАРЕННАЯ».**
**23.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК-2».**

### ЧЕТВЕРГ, 23 ЯНВАРЯ

**7.00, 14.55, 18.55, 21.05, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.00** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК-2».**
**9.45, 19.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**11.00** Х/ф **«ОДАРЕННАЯ».**
**12.45, 19.50** Т/с **«ДУБЛИНСКИЕ УБИЙСТВА».**
**13.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.05** «Мульт-парад».
**15.50** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**16.35** Х/ф **«ГОЛУБОЙ ЖАСМИН».**
**18.15** «Готовь как шеф».
**18.45** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПРОЛОГ».**
**23.15** Х/ф **«ЛОФТ».**

### ПЯТНИЦА, 24 ЯНВАРЯ

**7.00, 14.55, 18.55, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.00** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ТИХООКЕАНСКИЙ РУБЕЖ».**
**9.45, 19.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.30** Д/с «Большой скачок».
**11.00** Х/ф **«ЛОФТ».**
**12.50, 19.50** Т/с **«ДУБЛИНСКИЕ УБИЙСТВА».**
**13.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.15** Х/ф **«ИРРАЦИОНАЛЬНЫЙ ЧЕЛОВЕК».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ. ИСТОРИЯ».**
**23.25** Х/ф **«РЕВОЛЬВЕР».**

### СУББОТА, 25 ЯНВАРЯ

**7.00** «Погода»+ «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.45** «Утрямдия».
**8.50** Х/ф **«ДЕВЧАТА».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ЧАРОДЕИ».**
**13.15** Х/ф **«АНКОР, ЕЩЕ АНКОР!».**
**15.00, 18.55, 21.15, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**15.05** Мультфильмы «Страж Лев».
**15.50** Х/ф **«АВАТАР».**
**18.50** Х/ф **«ЛЕДОКОЛ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«МАММА МИА».**
**23.20** Х/ф **«007. СПЕКТР».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 26 ЯНВАРЯ

**7.00, 15.05, 19.05, 21.05, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.50** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Готовь как шеф».
**9.50** «Законы привлекательности».
**10.30** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ. ИСТОРИЯ».**
**12.50** Х/ф **«МАММА МИА».**
**15.10** «Смотрим всей семьей». «Аладдин».
**17.20** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ПРИКЛЮЧЕНИЯ ИТАЛЬЯНСКОГО АРИСТОКРАТА».**
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.10** Х/ф **«ДОЖДЛИВЫЙ ДЕНЬ В НЬЮ-ЙОРКЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«КИН-ДЗА-ДЗА».**
**23.25** Х/ф **«СЕМЬЯ ПО-БЫСТРОМУ».**



## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 20 ЯНВАРЯ

**6.30** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**8.10** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**10.00** Мая Радзіма.
**10.35, 15.15, 22.15** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**15.00, 18.00** Новости БЖД.
**17.40** Сотрудничество: Молодечно-Франция.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Свет души.
**19.45** Следопыт: история улиц Молодечно.
**20.15** Х/ф **«БАБЛО».**

### ВТОРНИК, 21 ЯНВАРЯ

**6.30, 7.55, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**6.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 19.45** Следопыт: история улиц Молодечно.
**7.25** Свет души.
**8.15** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**13.00** Х/ф **«АЛЕША ПОПОВИЧ И ТУГАРИН ЗМЕЙ».**
**15.10** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**16.30** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**18.10** По правилам таможни.
**19.15** Рядом со звездой.
**20.15** Х/ф **«ВСЁ И СРАЗУ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 22 ЯНВАРЯ

**6.30, 7.25** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 17.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00** Рядом со звездой.
**7.20** Все обо всем.
**8.00** Новости БЖД.
**9.40** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**11.40** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**13.45** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**15.35** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**16.55** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Всё обо всём.
**19.45** Следопыт: история улиц Молодечно.
**20.15** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 23 ЯНВАРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.15, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Театральная гостиная: Михаил Зуй.
**8.15** По правилам таможни.
**10.00** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**13.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**14.50** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**16.10** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**19.15** Мая Радзіма.
**19.45** А знаете ли вы? Город Молодечно - здоровый город.
**20.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 24 ЯНВАРЯ

**6.30, 7.25, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00** Золотой фонд края. Посвящается 80-летию Молодечненского района.
**8.00** Следопыт: история улиц Молодечно.
**10.00** Х/ф **«НЕВАЛЯШКИ».**
**11.55** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**13.10** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**14.40** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** Волшебная книга МЧС.
**19.25** Будьте здоровы.
**19.40** Мая Радзіма.
**20.30** Таланты края.
**22.15** Мажорный лад.

### СУББОТА, 25 ЯНВАРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Будьте здоровы.
**8.20, 20.20** Следопыт: история улиц Молодечно.
**8.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**10.30** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**13.00** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**
**14.50** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**16.40** Новости БЖД.
**17.00, 21.10** «Татьянин день в кругу друзей». Концерт.
**19.20** Реликвия: сохраненные ценности. Посвящается 80-летию.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 26 ЯНВАРЯ

**6.30** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙ ПАПА, НОВЫЙ ГОД!».**
**8.00** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**9.40** Х/ф **«ВОЛК И ОВЦЫ Б-Е-Е-ЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**11.05** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**12.20** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**13.50** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТУШЕНКА».**
**15.30** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**17.00** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**19.00** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**20.30** Х/ф **«НУ, ЗДРАВСТВУЙ, ОКСАНА СОКОЛОВА!».**
**21.00** Х/ф **«ИДЕАЛЬ».**

# нядзеля, 26 студзеня

## Беларусь 1

**6.40** Х/ф **«СУДЬБА ПО ИМЕНИ ЛЮБОВЬ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.20** «Все за стол! «.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ТРИ В ОДНОМ 5».**

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.10** Х/ф **«СЧАСТЛИВАЯ ЖИЗНЬ КСЕНИИ».**

**19.50** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ЧЕРЕЗ БЕДЫ И ПЕЧАЛИ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.25** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.20, 19.40** Телебарометр.

**9.25** «ЖаннаПожени». Свадебное шоу.

**10.25** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**11.15** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.55** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.

**12.50** Х/ф **«СОУЧАСТНИК».**

**14.50, 20.15** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**15.45** «Когда мы дома». Скетчком.

**16.10** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.55** Х/ф **«ОГРАБЛЕНИЕ ПО-ИТАЛЬЯНСКИ».**

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«МЮНХЕН».**

**23.55** «Суперэкена». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.00, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 14.20, 20.35** Гэты дзень.

**8.25** «Пятачок». Мультфільм.

**8.30** «Дача». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Зразы бульбяныя.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Прыморскі бульвар». Мастацкі фільм.

**14.25** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**15.05** «Выкрасці Бельмандо». Мастацкі фільм [СТ].

**16.55** «Камертон». Народная артыстка Беларусі Святлана Акружная.

**17.20** Канцэрт ВІА «Синяя птица».

**18.30** «Будзьце маім мужам». Мастацкі фільм [СТ].

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». «Скарбы Агры» [СТ].

**23.35** «Сто дзён з Купалаўскім».

**0.01** «Арт-гісторыі». Мастак Васіль Пукіраў і яго карціна «Няроўны шлюб».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ТАМ, ГДЕ ЕСТЬ СЧАСТЬЕ ДЛЯ МЕНЯ».**

**11.50** «Видели видео?».

**14.15** «Валентина Талызина. Время не лечит».

**15.20** «Точь-в-точь».

**16.20** «Точь-в-точь» Продолжение.

**18.20** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.

**20.00** Контуры.

**21.20** Х/ф **«ОНИ ОСВОБОЖДАЛИ БЕЛАРУСЬ».**

**21.55** Премьера. «Эксклюзив».

**23.40** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**0.00** Х/ф **«ПРО ЛЮБОВЬ. ТОЛЬКО ДЛЯ ВЗРОСЛЫХ».**

## СТВ

**6.25** «Секретные территории».

**8.10, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05** Документальный проект.

**12.15, 13.40, 16.40** Т/с **«НЕПОДКУПНЫЙ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Неделя спорта».

**22.45** День «Невероятно интересных историй».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.40** Мультфильмы.

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «Игра в правду».

**11.20** Т/с **«БОЛЬШОЕ ЗЛО И МЕЛКИЕ ПАКОСТИ».**

**16.15, 19.30** Т/с **«МОЙ ЛИЧНЫЙ ВРАГ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**21.50, 1.00** Т/с **«БЛИЗКИЕ ЛЮДИ».**

**3.00** Х/ф **«БЛИЗНЕЦЫ».**

**4.20** Т/с **«НАЙТИ МУЖА ДАРЬЕ КЛИМОВОЙ».**

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».

**6.15** Спорт-микс.

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Тело человека».

**7.25** Судьба Гигантов.

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «Однажды...».

**9.05** Родные люди.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.35** «Дачный ответ».

**12.35** «НашПотребНадзор».

**13.30** Т/с **«РАСПИСАНИЕ СУДЕБ».**

**16.20** За гранью.

**16.40** «Следствие вели…».

**18.05** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.05** Х/ф **«ПИНГВИН НАШЕГО ВРЕМЕНИ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СЛАБАЯ ЖЕНЩИНА».**

**10.25** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**11.20** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И НЕМНОГО ПЕРЦА».**

**13.10, 21.40** Т/с **«ДОМ ФАРФОРА».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**22.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.25** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.10** Век Адалин. **8.30** Линкольн для адвоката. **10.40** Прощай, детка, прощай. **12.45** Области тьмы. **14.40** Перемотка. **16.30** Солт. **20.10** Холодная гора. **23.00** Колесо чудес. **0.45** Византия. **2.50** Обещание. **4.55** Резня.

### TV1000 ACTION

**7.20** Власть страха. **9.45** S.W.A.T.: Спецназ города ангелов. **11.55** Арсенал. **13.35** Железный рыцарь. **15.40, 5.10** Смертельная гонка. **17.30** Атлантида. **19.20** Азартные игры. **21.10** План побега. **23.10** Дальше по коридору. **0.50** Пророк. **2.25** Кровный отец. **3.45** Сезон убийц.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.05** Карлик Нос. **8.35** Глухарь в кино. **10.15** Тени забытых предков. **12.00** Брат. **13.55** Брат 2. **16.15** Свадьба по обмену. **18.00** День дурака. **19.35** Герой. **21.00, 5.30** Собибор. **23.05** Жмурки. **1.25** Пациенты. **3.20** Сокровища О.К.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **11.15** Х/ф **«ЛАБИРИНТ». 13.30** Х/ф **«ПРОВОДНИК». 15.15** Х/ф **«ТЁМНАЯ БАШНЯ». 17.15** Х/ф **«ЯВЛЕНИЕ». 19.00** Х/ф **«ТЕЛЕКИНЕЗ». 21.00** Х/ф **«ТЕПЛО НАШИХ ТЕЛ». 23.00** Х/ф **«ТРЕУГОЛЬНИК». 1.00** Х/ф **«ЛЕКАРСТВО ОТ ЗДОРОВЬЯ». 3.30** Х/ф **«ПАДШИЙ 3». 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 13.00, 4.00, 5.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА 2». 14.00, 15.00** Т/с **«БИЕНИЕ СЕРДЦА». 20.00, 21.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 22.00, 23.00** Т/с **«ГРОМОВЫ. ДОМ НАДЕЖДЫ». 6.00, 7.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«СУТЕНЕР». 2.35** Х/ф **«2+1». 4.25** Х/ф **«ЖЕНИСЬ НА МНЕ, ЧУВАК». 6.00** Х/ф **«ПЯТНИЦА». 7.45** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ МУЖ». 9.25** Х/ф **«К ЧЕРТУ НА РОГА». 11.05** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 12.50** Х/ф **«ДЕНЬ РАДИО». 14.50** Х/ф **«ЧЕГО ХОТЯТ ЖЕНЩИНЫ?». 17.25** Х/ф **«ДЕНЬ ВЫБОРОВ 2». 19.30** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО». 21.10** Х/ф **«ДНЮХА». 23.00** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.50, 1.50, 2.50, 4.00, 4.55, 6.00, 7.00, 8.00, 9.05** Молодая гвардия. **10.05, 11.05, 12.05, 13.05, 14.00** Григорий Р. **15.00, 15.55, 16.55, 17.55, 18.50, 19.50, 20.50, 21.50** Дело гастронома №1. **22.45, 23.40** Три дня лейтенанта Кравцова.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **9.15** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.45** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.05** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.25** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 13.50** Х/ф **«ШТУРМ БЕЛОГО ДОМА». 16.20** Х/ф **«ОБЛАЧНО... 2: МЕСТЬ ГМО». 18.00** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **19.40, 0.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ 3». 22.55** «КВН. ПА-НАШАМУ». **23.30** Т/с **«ГАЛЫГИН.RU». 2.10** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **4.15** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.35** Индор-хоккей. Чемпионат Европы. Женщины. Минск. 1/2 финала. **7.35** Биатлон. Кубок мира. Поклюка. Одиночная смешанная эстафета. **8.30** Гандбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Матч за 3-е место. **10.00** Биатлон. Кубок мира. Поклюка. Смешанная эстафета. **11.15** Хоккей. КХЛ. Динамо (Минск) – Северсталь (Череповец). **12.50** Индор-хоккей. Чемпионат Европы. Женщины. Минск. Матч за 3-е место. **14.05** Биатлон. Кубок мира. Поклюка. Масс-старт. Мужчины. **15.00** Спорт-центр. **16.50** Биатлон. Кубок мира. Поклюка. Масс-старт. Женщины. **17.45** Игры «на вырост». **18.20** Гандбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Финал. В перерыве Спорт-центр. **20.20** Индор-хоккей. Чемпионат Европы. Женщины. Минск. Финал. **21.45** Фигурное катание. Чемпионат Европы. Гала-шоу. **23.50** Итоги недели.

### EUROSPORT

**1.50** Теннис. Australian Open. Шестой день. **2.55, 5.00, 7.00, 9.00, 11.15, 13.30** Теннис. Australian Open. Седьмой день. **11.00, 16.45** Теннис. «Гейм, Шетт и Матс». **17.00** Биатлон. Кубок мира. Поклюка. Мужчины. Масс-старт. **17.45** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Закопане. Мужчины. HS 140. **19.50** Лыжные гонки. Кубок мира. Оберстдорф. Мужчины. и женщины. Спринт. Классика. **20.45** Лыжные двоеборье. Кубок мира. Оберстдорф. HS 140. **21.15** Лыжные двоеборье. Кубок мира. Оберстдорф. Гонка преследования. **21.55** Снукер. European Masters. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 14.25, 14.45** Под микроскопом. **6.15, 7.15, 8.20** Трасса А2. **7.00** Под микроскопом. **8.00, 10.35, 13.35, 16.55, 19.00, 0.20, 1.55, 3.50** Итоговые новости. **9.10, 10.05, 17.15, 18.10, 0.35, 1.30** Тест на «Драйве». **9.40, 10.55, 18.45, 1.05, 2.10** Все включено. **9.55, 11.10, 18.00, 19.15, 1.20, 2.25** Куда уходит детство. **11.25** Советы юриста. **12.10, 12.35, 19.30, 19.55, 22.50, 23.20, 2.35, 3.00** Гаражная команда. **13.00, 20.20, 23.45, 3.20** Покорители Азии – 2. **13.50, 20.55, 4.05** Школа внедорожного вождения. **14.10** Мир танков. **15.00, 15.35** Комплектация. **16.05, 21.15, 4.20** Автомобильные музеи мира. **16.40, 22.35, 5.30, 5.45** Тайный покупатель. **17.40** Всё включено. **21.50, 4.50** Вечер с Пикуленко.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.30, 8.20, 9.05** Большое рыболовное состязание. **9.50** Речные чудовища. **10.45** Строительство гигантов. **11.35, 3.30, 4.20** Короли разрушения. **12.25, 13.15, 14.05** Выживание в лесу. **14.55, 15.20** Охота на оленей. **15.40** Охотники на морских ежей. **16.30, 17.15, 18.05, 18.55, 19.40, 20.30, 21.15, 22.05, 22.55, 23.40** Австралийские охотники на лобстеров. **0.30, 1.15** Уникальные дома из дерева. **2.00, 2.45** Австралийские золотоискатели. **5.10, 5.35** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.25, 5.25** Музейные тайны. **7.15** Невероятные изобретения. **8.20, 9.15, 10.10** Запретная история. **11.05, 12.05** Взрывная Земля. **13.05, 14.05** Замки – оплоты силы. **15.10, 16.05, 17.05, 18.05, 19.05** Разгадка тайны пирамид. **20.05, 21.00** 5000 лет истории Нила. **21.55** Тридцатилетняя война – Железный век. **23.00** Забытые королевства Южной Америки. **0.10** Титаник: истории из глубины. **1.05** Военные заводы. **2.00, 2.25** Родовые проклятья. **2.55** Мифы и чудовища. **3.45, 4.35** Мифические существа.

### NATURE

**6.00, 6.25, 23.15, 23.40, 0.05, 0.30, 0.55** Природа в кадре. **6.50** Мир природы: повелитель летучих мышей из Мексики. **7.45** Мир природы – Лобо – волк, который изменил Америку. **8.40** Мир природы – крылатые охотники на обезьян. **9.35** Мир природы – радио «Гиббон». **10.30, 11.30** Дельфины – шпион в стае. **12.30** Суперветеринар. **13.20, 13.45** Уличный ветеринар. **14.15** Ветеринар из глубинки. **15.00** Мир природы: морж – двухтонный клыкач. **15.55, 16.50, 17.50** Дикая Бразилия. **18.45** Мир природы – японские макаки. **19.40** Мир природы – очковые медведи. **20.35** Новый взгляд на тираннозавра. **21.30** Суровая Австралия. **22.20** Земля больших кошек. **1.20, 2.10** Жуткие, настоящие и странные. **3.00, 3.50** Анатомия крупнейших животных. **4.40** Ветеринар из Йоркшира. **5.25** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**5.55** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.20, 6.45, 7.10** Зона строительства. **7.35, 8.20** Непокорный остров. **9.05** Золото в холодной воде. **9.50** Суперкар со свалки. **10.35** Авто – SOS. **11.20** Внутри невероятной механики. **12.05** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **12.55, 13.40** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **14.25, 15.10** Китай с высоты птичьего полета. **15.55, 16.40, 17.25, 1.35, 2.20, 3.05** Возрождение морского шелкового пути. **18.15, 19.00, 0.45, 3.55** Осушить океан. **19.50, 20.40, 21.30, 22.20, 23.05, 23.55** Неизвестный Китай. **4.45** Чудеса инженерии. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00** Какая дичь! **6.15, 17.45** Рыбалка 360. **6.45, 9.00, 15.50, 19.45** Камский спиннинг. **7.10, 9.35, 18.40, 22.35, 3.05, 5.35** Охота в Приволжье. **7.45, 16.20, 3.35** Люди дикого севера. **8.30, 22.05, 4.20** Профессиональная рыболовная лига 2019. **8.45** Первый лед последний лед. **10.05** Пофестивалим! **10.35, 13.15, 0.40** Охота по-фински. **11.10, 0.10, 1.10** Фишермания. **11.40, 14.20, 21.35, 2.10** Мир рыболова. **12.10, 14.50, 2.35** Территория льда. **12.40, 13.45, 17.10, 23.05** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **15.20, 19.15** Россия заповедная. **18.15** Поехали на рыбалку! **20.10** Бристольский залив. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.40** Мой мир – рыбалка. **1.40** Пофестивалим! **4.50** Охота и рыбалка в. **5.20** Рыбалка сегодня.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 14.00, 18.00, 22.00, 2.10** Дома на деревьях. **6.45, 10.40, 22.45** Кухня народов СССР. **7.00, 15.05, 19.00, 3.05** Беспокойное хозяйство. **7.30, 11.30, 15.35, 19.35, 23.35, 3.35** Профпригодность. **8.05, 12.00, 20.05, 0.05, 4.05** Лучки-пучки. **8.20, 12.20, 16.25, 20.25, 0.25, 4.20** Дачные хитрости. **8.35, 12.40, 16.40, 20.35, 0.40, 4.45** Высший сорт. **8.50, 12.55, 17.00, 20.55, 0.55, 5.00** Дачных дел мастер. **9.25, 13.25, 17.25, 21.25, 1.20, 5.30** Альтернативный сад. **11.00** Огород круглый год. **14.45, 18.45, 2.50** Готовим на Майорке. **16.05** Академия огородника. **23.05** Огород круглый год. **1.55** 50 оттенков желе. **4.35** Травовед.

# Бабуля не паехала з дзедам у Амерыку, таму што баялася акіяна

**У кастрычніку 2019 года «Рэгіянальная газета» пачала цыкл гісторый пра беларусаў, якія з'язджалі на заробкі ці ў эміграцыю ў ЗША на пачатку 20 стагоддзя. Сваёй гісторыяй з «РГ» у гэты раз дзеліцца Тэрэса Бакула.**


Фота time.com.

Каб патрапіць у Нью-Ёрк, людзі спачатку чакалі на востраве Эліс.

– Мой дзядуля **Адам Тамашавіч Грыганец** ездзіў у Амерыку зарабляць грошы, пражыў там пяць гадоў і вярнуўся за бабуляй з дзецьмі. Яна адмовілася ехаць. Баялася акіяна, бо трэба было плысці больш за месяц, а дзяцей маленькіх было восем. Тады дзед купіў на зробленыя грошы зямлю, але неўзабаве прыватную ўласнасць адмянілі ў сувязі з прыходам савецкай улады, усё абагульнілі ў калгасы. Дзед перастаў размаўляць нават з сям'ёй да самай смерці. Не мог гэтага перажыць.

Бабулю звалі Феліцыя. Імя па бацьку не памятаю ўжо. Дзявочае прозвішча Скорая. Жылі ў Пастаўскім раёне. Раней гэта быў Свянцянскі павет, пазней Маладзечанская вобласць. Дзед быў літоўцам, а бабуля полькай.

Дзед нарадзіўся ў Дзвіланях, быў бедны і прыйшоў да бабулі, якая была больш багатая, у прымакі. Сям'я вялікая, 10 чалавек, таму сродкаў на існаванне не хапала. Вось, як і ўсе тады, дзед адправіўся на заробкі ў Амерыку з вялікім драўляным куфрам сала. Працаваў на фабрыцы ў Нью-Ёрку, добра па тых часах зарабляў. Быў моцнага целаскладу, высокага росту. Аднак, як распавядаў мне ўжо бацька, дзед казаў, што не ўсім атрымлівалася ўладкоўвацца на добрую працу. Пераважна эмігранты траплялі на чорныя работы, куды не вельмі хацелі ісці працаваць пастаянныя жыхары.

### Як склалася жыццё сям'і Грыганцоў

Бацька мой, **Браніслаў Адамавіч**, беларус. Раней Заходняя Беларусь была пад рознай уладай. Калі дзеці выраслі, то раз'ехаліся па ўсім свеце. Бацька, толькі адзін з братоў, і застаўся тут з дзедам. Два іншыя – Нікадзім і Іосіф – з'ехалі ў Польшчу і пражылі там усё жыццё. Сястра Станіслава выйшла замуж за ўкраінца-шахцёра, і яны з'ехалі ў Эстонію на заробкі, і там аселі назаўжды. Другая сястра, Яніна, асела ў Літве. Астатнія – Ірына, Марыя, Феліцыя – хто куды, па Віцебскай вобласці выйшлі замуж.

**Настасся УТКІНА.**

## Хто такі Міхась Забэйда-Суміцкі, імем якога назвалі вуліцу ў Маладзечне

**Працягваем распавядаць пра вуліцы Маладзечна, асобы і падзеі, у гонар якіх яны названы.**

Міхась Забэйда-Суміцкі нарадзіўся ў чэрвені 1900 года ў вёсцы Шэпічы Касаўскага павета. Цяпер гэта тэрыторыя Брэсцкай вобласці. Яго бацькі Іван Забэйда і Аляксандра Суміцкая былі беззямельнымі сялянамі.

Цяжкая праца ў панскім маёнтку чаргавалася з навучаннем у школе, а затым – у царкоўнапрыходскім вучылішчы. У гэтым час Міхась саліраваў у царкоўным хоры, навучыўся іграць на балалайцы, мандаліне, гітары, гармоніку, асвоіў скрыпку.

Імкненне вучыцца прывяло юнака ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. У 1918 годзе Міхась атрымаў педагагічную адукацыю.

Падчас грамадзянскай вайны ў 1920-м Забэйда-Суміцкі апынуўся ў Кітаі. Ён некалькі год правёў у Харбіне, выкладаў у школе. Каб працягваць браць урокі спеваў, яму трэба было адмовіцца ад працы ў школе. Аднак Міхась вырашыў яшчэ паступіць на юрыдычны факультэт мясцовага ўніверсітэта.

У 1929 годзе ён выступае на сцэне як прафесійны спявак. У Харбінскім оперным тэатры выканаў арыю Ленскага ў оперы Чайкоўскага «Яўгеній Анегін».

**На працягу трох гадоў ён выступаў у харбінскай оперы. Крытыка добра прыняла маладога спевака, ён паверыў у сябе і захацеў удасканаліць свае здольнасці.**

У 1932 годзе пераехаў у Італію, працаваў з вядомымі опернымі тэатрамі Еўропы і спяваў на 16 мовах. У 1935 годзе вяртаецца ў Беларусь, тую частку, што была ў межах Польшчы, таму што прыходзяць звесткі пра маці, якая моцна хварэе і хоча яго ўбачыць. Яго першы канцэрт на радзіме адбыўся ў Ружанах. У канцэрце сярод класічных твораў прагучала і беларуская калыханка, якую калісьці спявала яго маці.

На 1935 – 1936 гады заключыў кантракт з Пазнаньскім оперным тэатрам. Там спяваў усё па-польску. Адносіны дырэктара оперы з Міхасём Іванавічам былі не лепшыя. Канфлікт паўстаў на глебе нацыянальнага пытання: Міхась Забэйда-Суміцкі не жадаў называць сябе польскім спеваком, прызнаючы толькі адно права – звацца беларускім. Спявак пераехаў у Варшаву, дзе займаўся і нацыянальна-асветніцкай дзейнасцю. Вясной 1940 года пераехаў у Прагу, дзе і правёў усё астатняе жыццё. Ён займаўся музыкай, сабраў багаты архіў з бібліятэкай, якую, паводле запавету, пакінуў Беларусі. Памёр у Празе 21 снежня 1981 года.


Фота ru.wikipedia.org

**Настасся УТКІНА.**

**● КАЛЯНДАР**

**17 СТУДЗЕНЯ**

**1884.** Нарадзіўся **Антон Луцкевіч**, грамадскі дзеяч, гісторык, літаратуразнаўца, публіцыст.



**1971.** Адкрыццё Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі ў Мінску.

**18 СТУДЗЕНЯ**

**1895.** У Івянцы нарадзіўся **Лявон Більдзюкевіч**, беларускі педагог, грамадскі дзеяч, матэматык. Рэпрэсаваны ў 1938 годзе. Загінуў на Калыме. Рэабілітаваны.

**1912.** У в. Батурына на Вілейшчыне нарадзіўся **Пётра Сыч**, беларускі пісьменнік, мемуарыст. Памёр у 1963 годзе на эміграцыі ў ФРГ.

**19 СТУДЗЕНЯ**

**1963.** Адбыўся першы выступ гурта «Бітлз» на тэлебачанні.

**20 СТУДЗЕНЯ**

1892. Нарадзіўся **Браніслаў Тарашкевіч**, дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння, палітык, мовазнаўца. Аўтар першай агульнапрынятай граматыкі беларускай мовы, 1918. Рэпрэсаваны. Загінуў у часе катаванняў у вязніцы НКВД у 1938 годзе. Рэабілітаваны.



**21 СТУДЗЕНЯ**

**1793.** Вялікая французская рэвалюцыя. Па пастанове суда пакаралі смерцю караля Людовіка XVI, абвінавачанага ў змове супраць свабоды нацыі і агульнай бяспекі дзяржавы.

**22 СТУДЗЕНЯ**

**1905.** Крывавая нядзеля. Па загадзе цара Мікалая II войска адкрыла агонь па дэманстрантах у Пецярбургу. Па афіцыйных звестках загінулі 93 чалавекі. Неафіцыйныя крыніцы сцвярджаюць аб сотнях забітых (800 – 1000). Мікалай II займеў імя Крывавага.

**23 СТУДЗЕНЯ**

1793. У Санкт-Пецярбургу падпісанае пагадненне паміж Расіяй і Прусіяй аб Другім падзеле Рэчы Паспалітай.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Вёска Вераб’і: мы ўжо нікому



Фота Сяргея ЛЕСКЕЦА.

Ірэна Зімніцкая.

**У вёсцы Вераб’і Астравецкага раёна засталіся лічаныя мясцовыя жыхары. Тры суседкі самі косяць траву, радуюцца нячастым візітам сваякоў і ўспамінаюць, якім было тут жыццё ў іх маладосць.**

Каб зарабіць на зямлю і пабудаваць дамы, некаторыя жыхары вёскі ў 20-я гады ездзілі на заробкі ў Аргенціну. Што цяпер з іх спадчынай і вёскай, мы распавядзём у гісторыі трох найстарэйшых мясцовых жыхарак.

## Ірэна Зімніцкая, дзявочае прозвішча Гутовіч

Нарадзілася ў 1939 годзе ў вёсцы Вераб’і Астравецкага раёна.

Ірэна жыве ў бацькоўскім доме. Бацькі мелі трох сыноў – усе памерлі, а дзве дачкі выжылі.

Тата Франц паехаў у Аргенціну ў 25 год і пражыў за акіянам 11. Хацеў там ажаніцца, але за рускіх з мясцовых ніхто не ішоў.

– Тата быў красівы, а яны шчыталі – бедны. А яны, можна падумаць, такія багатыя. То прыехаў і тады жаніўся.

> **У Аргенціне ён працаваў на шкляной фабрыцы. Зарабляў грошы і высылаў сюды на зямлю. Зарабіў многа, але і зямля была дарагая. Грошы атрымлівалі тры браты і куплялі на іх зямлю ўсім братам.**

– Я малая такая благая была. Аднойчы мама з сяброўкай паехалі на кані ў Вільню. На акне сушыліся баравікі, то я ўсе з’ела. Ледзь не памерла ад іх, было гадоў шэсць. Аднойчы ў сценку загнала залатыя пярсцёнкі. Можа, там і засталіся, ці мышы выцягнулі. Во якая благая была.

Ля дома быў склеп каменны, вялізны клён. У вайну там усе хаваліся. Немцаў у вёсцы амаль не было, але абстрэльвалі, міма клёна толькі кулі свісталі.

Раней ля возера ні адной камышыны, ні кусціка – такая прыгажосць. А цяпер зарасло ўсё, гадоў 25 таму пачало зарастаць. Як яшчэ ездзілі нарачанскія рыбакі з невадамі, то не зарастала – яны яго ачышчалі, і рыбы было. У нашай сям’і тата лавіў рыбу. А тады не дазвалялі лавіць сеткамі, але самаробную сетачку ў вёсцы меў кожны.

Са школы запомнілася, што вучыцца не хацела, а пасля шкадавала. Хацела, каб камандаваць кім-небудзь. На год паехала ў Карэлію на працу. Пасля напісалі, што адчынілі завод у Вераб’ях, вярнулася, каб на ім працаваць.

### Пра падарожжы

– Па муку ездзілі на кірмаш у Вільню. Аднойчы ішоў лівень, мы розных прадуктаў набралі. Мне басаножкі знялі, я паслізнулася і пад машыны трапіла. Спыніла ўвесь рад машын. Нашы жанчыны смяюцца, а мне злосць. Кіроўца першай машыны сігналіць, не разумее, што. А мне басаножка шкада. Было з 25 год.

У Вільню вазіў аўтобус ад завода. Ездзілі неяк у Ленінград. Заглядзелася на вітрыну, а пасля даганяла сваіх. Як стукнуся ў мужчыну, стаяў клубніку еў! Шляпа сабе, клубніка сабе.

Яшчэ неяк прыехалі ў Мінск у цырк. Былі такія крэслы, што адкідваюцца. У мяне быў білет на шэрагу над маімі дзяўчатамі, ужо ж і прыбраліся, завушніцы прыгожыя надзела. Стыдна расказаць – не ведаю, як сесці. Села на беражок, бачу, што замінаю ўсім. А побач салдаты абмяркоўваюць, што вясковым і крэслы нялюдскія. Так сорамна стала, думала збегчы за арэну, дзе сабак трымаюць. Сяброўкі ж не поймуць, што я не бачыла цырк.

> **Пасля на антракце салдаты пазвалі на марожанае, я не пайшла. То яны мне і марожанае, і напой прынеслі. Дзе не паеду, усюды дзялоў нараблю.**

Каб хадзіць ва ўборах, нешта самі вышывалі, што куплялі, а што заказвалі ў партніх на вёсцы.

### Пра працу

На заводзе нічога зарабатвалі. Мы здымалі цэглу з ленты і складвалі ў вагончыкі. Тады паўсюль будаваліся, але і дарогі не было, канём праз лес вазілі. Пасля зрабілі дарогу. Некаторыя здзіўляліся – як гэта так цяжка жанчыны працуюць. А мы прывыклі.

Пасля навучылася на муляра, працавала на будоўлі – цяжка, сонца-не сонца. Байкі нейкія расказвала, а мужчыны рабілі. Бывала, нейкую цэглу падавала. Будавалі цагельны завод, каб ужо працаваў не толькі летам, а круглы год. Пасля працавалі на гэтым новым заводзе, ён быў больш механізаваны. Адна цагліна важыла чатыры кілаграмы, за змену трэба было перанесці 12 тысяч цаглінак.

Муж працаваў радыстам – праводзіў радыё ў вёсцы. Было гадоў 18, як пазнаёміліся. Усе хваляць, што надта красівы быў. Вырашыла, што раз такі красавец, трэба забіраць.

Сукенку на вяселле недзе пазычыла. Тады бяднейшыя вяселлі былі. Не тое, што цяпер, як мадэлі выкручваюцца.

### Сям’я

Маю дваіх дзяцей, сын Ваня і дачка Ліля. Ваня жыве ў Страчанцы, часта прыязджае, унучка начуе. Ліля пераехала ў Германію. Ёсць дзве праўнучкі, адну з іх, Соню-Мію, з Англіі нядаўна прывезлі паказаць прабабулі.

На 80-гадовы юбілей прыехалі ўсе сваякі – і з Англіі, і з Германіі, і з Беларусі.

> **У маладосці было 35 дамоў, а жыхароў у кожным доме ў сярэднім па 6-7. Цяпер жыве каля дзесяці. Толькі дзве хаты былі праваслаўныя, хадзілі ў царкву ў Свір. А ў касцёл ездзілі ў Вілейку пад Вільняй аўтобусам, але не кожны тыдзень.**

З вёскі ўсе выехалі хто куды – Рыга, Англія, Вільня, Гродна, Мінск. Некаторыя дамы купляюць на лецішчы. Маладым тут няма работы, у калгасе ні аднаго чалавека. Столькі было

# не патрэбныя



Гелена Каркуль.



Леакадзія Сапега.



У доме Ірэны Зімніцкай.



У доме Гелены Каркуль.

народу ў калгасе. Такая была паўсюль прыгажосць, усё даглядалі.

Вельмі шкада, што вёска знікае. Усё было абгароджана, платы, лавачкі, кветкі. Летам дапазна працавалі, збіраліся і пасядзець. Зімой збіраліся на вячоркі.

## Гелена Каркуль, дзявочае прозвішча Ляховіч

Нарадзілася 20 снежня 1932 года ў суседняй вёсцы, а ў Вераб'і прыйшла замуж. У сям'і мужа ўсе раз'ехаліся, акрамя яго і сястры. Пасля пайшоў у армію на пяць гадоў.

– З арміі прыйшоў, мне спадабаўся, блізкі хлопец. Сястра выйшаўшы была замуж, хату закрыла. Пакуль ён служыў, чыста ўсё пакралі ў гэтай хаце. Вярнуўся, то ўсё абабіў, файна давёў.

Муж Слава памёр 19 год таму. Вянчаліся ў касцёле ў Свіры. Сукенку дала братавая. І фотакартачка шлюбная ёсць з фотаатэлье ў Свіры.

Выгадавалі дзвюх дзяўчын і сына – Аля, Тэрэса і Валік. Сем унукаў, 10 праўнукаў.

Працавала на полі, ён на цагельным заводзе. Там ад холаду захварэў, таму рана пайшоў з жыцця.

**Вайна міма прайшла, вось у Міхалішках страшна было.**

У вайну здарыўся такі выпадак – суседка папрасіла прыйсці да яе начаваць, бо муж пайшоў коней пасвіць. Спалі і не чулі, як бандыты ўлезлі ў дом і ўсё пакралі. Была галадоўка, а гаспадары толькі ажаніліся і мелі шмат дабра. Муж вярнуўся, бачыць непарадкі, а мы ніяк прачнуцца не можам. І як яны такое маглі ўчыніць?

Вучыліся ў Вераб'ях, але не было ні сшыткаў, ні ручак.

Дачка Аля жыве ў Вільні. Тэрэза ў Страчы працуе ў аўталаўцы. Сын Валік працуе трактарыстам у Страчанцы.

Дачка Аля працавала ў ліцейным цаху, адкуль яна прынесла розныя формы – бараны, зайцы, грыбы. Купіць такія не было дзе, таму выпечка ў такіх формах вельмі цанілася. На ўсе святы суседзі заказвалі такую выпечку ў Алены.

Збіраліся на вечарынкі, рабілі розныя штукі. Аднойчы ў калодзеж елку закінулі. Вёска пачала меншаць, як пачалі паміраць адзін за адным гадоў з 15 таму.

Месца, каб жыць, добрае. Толькі парадкаваць няма каму. І работы ніякай няма. Засталося нас некалькі суседак. Астатніх хто з Мінска прыехаў хату купіў на лецішча, хто з Маладзечна.

## Леакадзія Сапега, дзявочае прозвішча Гутовіч

Нарадзілася ў 1930 годзе ў Аргенціне.

– Мама казала, што нарадзілася ў маі, але дату не помню.

Бацька паехаў зарабіць у Аргенціну і забраў маці. Там і нарадзілі мяне. Пасля доктар сказаў, што маме не падыходзіць клімат, таму праз некалькі гадоў давялося вяртацца. Білеты на пераезд былі дарагія, спачатку тата адправіў маму са мной. Сам вырашыў падзарабіць у Амерыцы. Але хутка памёр.

Праз некалькі год пасля нашага вяртання з Амерыкі пачалася вайна. Брат, якому на той момант было 16 год, пайшоў добраахвотнікам у польскую армію. Дурань! Як пайшоў, так і забілі. Дзе пахаваны, не знаю.

Пра вайну – стралялі, хаваліся ў склеп да Ірэны.

Мама вярнулася ў дом мужа, дзе жылі яго два браты. Сказала, што сама дом не пабудуе і застанецца тут. Пасля выйшла замуж другі раз за мясцовага.

**Я працавала ў калгасе. І хварэла, і працавала, але жыву. Казала ксяндзу, маладыя ўсе памерлі, а я старая засталася. І цяпер працую, кашу во сама.**

Муж быў з мясцовых, ажаніліся ў Свіры. Мне не было і 18 год, але ў доме трэба быў мужык, каб было каму працаваць на зямлі.

Быў толькі адзін сын Юзэф. Застаўся ўнук Юра.

Прадукты прывозіць аўталаўка, па рэчы ездзім рэдка, але калі трэба, то ў Камарова. Лекі прыносіць сацыяльны работнік.

Каму я ўжо трэба, і хата гэтая. Сто гадоў прастаяла, так дзед зрабіў крэпка. Ніхто сюды ўжо не прыедзе жыць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Больш фота – **на rh.by!** Адсканууйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/verabji**



# Каб набыць баян, бацькі прадалі карову

## Дырыжору і музыканту Івану Канановічу – 80 год

МАЛАДЗЕЧНА

**Першым музычным інструментам будучага музыканта і дырыжора Івана Канановіча быў губны гармонік. Ён аднекуль узяўся ў бацькоўскім доме ў вёсцы Схоліна, што ў Палачанскім сельсавеце на Маладзечаншчыне.**



Фота забяспечанае Васілём ТАРХАНАМ.

Іван Канановіч (ля раяля) раз з хорам ветэранаў, якім кіраваў да нядаўняга часу ў Палацы культуры Маладзечна.

Пазней бацька прынёс сапраўдны гармонік. І ўрэшце, пераканаўшыся ў музычных здольнасцях сына, прадаў карову і набыў баян. Хоць мама не вельмі падтрымлівала тады бацьку, прыгадвае Іван Міхайлавіч. Пры гэтым ніхто з блізкіх сваякоў не іграў. Толькі стрыечны дзед – на скрыпцы.

Сёння Іван Канановіч – пенсіянер. Аднак на любімым баяне час ад часу іграе і прыгадвае сваю музычную маладосць.

### Музыка гучала так, што чулі ў Груздаве

Ад 14 гадоў Іван іграў на школьных вечарынах, вучыўся на курсах мастацкіх кіраўнікоў пры Маладзечанскім музвучылішчы. Да войска працаваў культмасавіком у Палачанах. Праца падабалася. У вёсцы хлопца звалі Ванька клубны.

– Я працу сваю любіў, і да мяне добра ставіліся ў раёне. Тагачасны загадчык аддзела культуры падарыў радыёлу «Беларусь». Каб музыка ў вёсцы гучала мацней, падключалі да радыёлы дынамік. Музыка была чуваць у суседняй вёсцы Груздава, – распавядае суразмоўца.

Бацька, **Міхаіл Міхайлавіч**, вельмі ганарыўся, што сын стаў музыкантам. Любіў бываць у вясковых кампаніях, дзе Іван іграў на баяне. Другім сынам ганарыўся таксама. Той, як і бацька, стаў добрым сталярам.

### А ў Маладзечне ўжо чакалі жонка з дачкой

Калі прыйшоў час служыць у войску, Іван трапіў у палкавы аркестр групы Савецкіх войскаў у Германіі. Служыў у Дрэздэне. Тут застаўся пасля тэрміновай службы і прабыў дзесяць год. Завочна адвучыўся ў Маскоўскім універсітэце мастацтваў. Асвоіў духавыя інструменты – альт, валторну, барытон.

Пасля Германіі кіраваў аркестрам Лепельскага гарнізона. Рэпеціравалі па некалькі гадзін на дзень: не толькі ігралі, але і маршыравалі.

У Маладзечанскім музвучылішчы вывучыўся на дырыжора. А пасля быў Афганістан. І тут дырыжыраваў аркестрам. Пазнаёміўся з вядомымі музыкантамі, якія клікалі дырыжора ў Маскву. Але ён не паехаў, бо на радзіме чакала жонка Вера з дачкой. І сёння Іван Міхайлавіч разам са сваёй Верай. Разам яны 35 год.

### Музыка і гумар дапамагаюць па жыцці

Музыкант адыграў шмат вяселляў і юбілеяў. Да нядаўняга часу кіраваў хорам ветэранаў у Маладзечанскім Палацы культуры. Шмат гадоў спяваў у царкве дуэтам з **Наталляй Карабінавай**, за што вельмі ёй удзячны.

Днямі Іван Міхайлавіч адзначае 80-гадовы юбілей. Кажа, што ў жыцці яму заўсёды дапамагае музыка і гумар.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

## Актыўны, зацікаўлены, выхаваны. Хлопец з вілейскай школы №3 стаў вучнем года Міншчыны

ВІЛЕЙКА

**9 студзеня ў Слуцку абралі найлепшых вучняў Міншчыны. Сярод іх вучань сярэдняй школы №3 Вілейкі Мікіта Абрамчук.**

Хлопец перамог у намінацыі «Праектная дзейнасць».

У школе расказалі пра падрыхтоўку да конкурсу і пра тое, чаму для ўдзелу абралі Мікіту.

– Калі мы даведаліся пра конкурс, адразу ўзнікла думка пра ўдзел вучня 11 класа Мікіты Абрамчука. Хлопец ужо тры гады займаецца праектнай дзейнасцю.

> Актыўны, зацікаўлены, выхаваны. Паболей бы такіх вучняў, – падзяліўся дырэктар школы Мікалай Гіро.

У школе правялі міні-нараду па падрыхтоўцы да конкурсу. Стварылі рабочую групу. Яе ўзначаліла намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Алена Семянковіч**.

– Было лёгка рыхтаваць партфоліа Мікіты, – кажа намеснік дырэктара. – Ён фіналіст рэспубліканскіх конкурсаў, мае шмат дыпломаў, фотаздымкаў з мерапрыемстваў, дзе ён выступаў са сваімі праектамі.

> Якое б гарадское мерапрыемства ні ладзілі ў Вілейцы, Мікіта амаль усюды ўдзельнічае са сваімі прэзентацыямі.

Хлопец займаецца даследаваннямі ў школе, але найбольш у праекце «Планета навуковых цудаў», што рэалізуюць у Вілейскім цэнтры дадатковай адукацыі. Тут Мікіта праводзіць розныя фізічныя і хімічныя доследы, а пасля прэзентуе іх перад публікай.

> Стварыў у сацыяльных сетках суполкі для такіх самых, як ён, маладых людзей, зацікаўленых праектнай дзейнасцю.



Фота з сайта Вілейскага райвыканкама.

Вучань года Міншчыны – Мікіта Абрамчук.

– Ад вобласці было 500 удзельнікаў, а абралі толькі 25, – з гонарам адзначае Мікалай Гіро. – Для ўдзелу Мікіты ў абласным конкурсе ў Слуцку мы падрыхтавалі ралапы, на якіх паказалі ўсе дасягненні хлопца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота забяспечана героем публікацыі.

Радасць раздзялілі сябры і сваякі.

# «Каханая здагадвалася, што я ўтвару нешта падобнае»

## Маладзечанец забраў жонку з радзільні пад жывую музыку

МАЛАДЗЕЧНА

**30 снежня мінулага года ў сям'і Яфіменкаў нарадзілася дзіця. Жонку Святлану і дачушку Данаю маладзечанец Дзмітры забіраў ужо ў новым годзе. Забіраў не толькі з паветранымі шарамі і плакатам, але яшчэ і з жывой музыкай.**


Дзмітры і Святлана Яфіменкі з дачкой Данаяй.

– Даная – наша першае дзіця. Мы вельмі чакалі яе. На выпіску разам са мной прыехалі нашы бацькі, браты жонкі, сястра, сябар і хлопец, якога я вучыў іграць на барабанах, – адказаў **Дзмітры** на пытанні карэспандэнта «Рэгіянальнай газеты».

### Работнікі радзільні здымалі выпіску на тэлефон

Для жонкі гэта быў сюрпрыз. Хаця яна, напэўна, здагадвалася, што я нешта падобнае ўтвару, дзеліцца суразмоўца.

Персанал радзільні выйшаў на вуліцу і здымаў незвычайную выпіску на тэлефоны. Усе ўсміхаліся.

Калектыў музыкантаў – гэта вучань Дзмітрыя, брат яго жонкі, добры сябар і сам малады бацька. Плакат Дзмітры маляваў сам. Рулон шпалераў узяў у мамы, набыў балончык фарбы.

– Ужо перад самым выездам у радзільню напісаў на плакаце, як люблю жонку і дачку, – прыгадвае мужчына.

Калі Святлана з дачкой выходзілі з радзільні, музычны калектыў выконваў Happy Birthday to You.

### Дзмітры: гэта не паказуха, а маё жыццё

Па словах Дзмітрыя, такая выпіска была не паказухай для людзей. Гэта маё жыццё і мае каштоўнасці, мае адносіны да жонкі, якую кахаю, кажа мужчына.

– Калі сем'і распадаюцца, то шмат хто кажа «не сышліся характарам». Я не веру ў гэта. У адносіны трэба ўкладаць, працаваць над гэтым. Для мяне каханне – гэта дзеяслоў. Гэта дзеянні, да якіх я сам сябе павінны прывучаць свядома, укладваючы ў сваю сям'ю. Акрамя мяне гэта ніхто рабіць не будзе. Моцны шлюб і шчаслівая сям'я самі па сабе не атрымаюцца, – лічыць суразмоўца.

Каб атрымаць нейкую прафесію, напрыклад, повара, людзі вучацца некалькі гадоў. А каб пабудаваць моцны шлюб, тым больш трэба ўпарта папрацаваць, перакананы Дзмітры.

...Калі Даная падрасце, бацькі абавязкова пакажуць ёй архіўнае відэа з радзільні і публікацыю ў «Рэгіянальнай газеце».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У Ільі зладзілі свята для дзяцей з інваліднасцю

ВІЛЕЙКА

**Грамадскае аб'яднанне людзей з інваліднасцю «Добрае сэрца» зладзіла навагоднее свята ў Ільі.**

– Запрасілі дзяцей з інваліднасцю, што жывуць у вёсках Ільянскага і Хаценчыцкага сельсаветаў, – расказаў карэспандэнту адзін з арганізатараў ільянец **Віктар Філістовіч**. – Усяго па двух сельсаветах 17 такіх дзяцей. На свята змаглі прыйсці дзесяць.

Раніца зладзілі ў Доме культуры, работнікі якога правялі прадстаўленне. А потым былі падарункі. Тут дапамог раённы «Чырвоны крыж» на чале са **Святланай Лях**, абласны – на чале з **Людмілай Мусянковай**. Далучыўся святар з Ільянскай царквы айцец **Віктар** і Маладзечанскае раённае таварыства інвалідаў на чале з **Васілём Тарханам**.

Дзеці атрымалі ласункі і адзенне. А таму, хто не змог прыйсці, падарункі перадалі дамоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Людмілы БУРЭЕВІЧ.

Падчас святкавання.

# У смаргонскім садку зладзілі выставу да Новага года

СМАРГОНЬ

**Зімой вельмі шмат падстаў для таго, каб заняцца творчасцю, лічаць педагогі і выхаванцы смаргонскіх ясляў-сада №13.**

Менавіта гэты час года абуджае фантазію і ўяўленне.

Таму ў нашым садку зладзілі выставу вырабаў «Цуды на Новы год». Асаблівa зацікавіла выстава тых, хто любіць майстраваць і фантазіраваць.

Разнастайныя ялінкі, пацешныя снегавікі, заснежаныя хаткі, сімвалы Новага года – мышкі… Усё гэта ўласнымі рукамі з розных матэрыялаў зрабілі бацькі разам з дзецьмі.

Навагоднія сюжэты сямейнай творчасці ўпрыгожылі наш садок і ўнеслі непаўторны элемент у навагодні інтэр'ер. Усе вырабы атрымаліся вельмі яркімі, маляўнічымі, арыгінальнымі. А ў вачах дзяцей было шмат радасці і гонару за свае творы.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці смаргонскіх ясляў-сада №13.**


Фота забяспечана аўтарам.

Вырабы выхаванцаў і іх бацькоў.

## Міністр спорту пахваліў каманду беларускіх батутыстаў

Сярод іх быў віляйчук **Іван Літвіновіч**. Хлопец атрымаў грамату ад Міністэрства спорту і турызму. На цырымоніі міністр спорту і турызму **Сяргей Кавальчук** уручыў граматы спартсменам. Ён выказаў упэўненасць, што на Алімпійскіх гульнях наша каманда пакажа ўсё, на што здольная.

Нагадаем, што на чэмпіянаце свету ў Токіа Іван Літвіновіч узяў серабро ў індывідуальных скачках, а ў складзе каманды там жа заваяваў золата.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дзве смаргонкі сталі фіналісткамі ў міжнародным баскетбольным праекце

Дзяўчаты былі адабраныя групай айчынных экспертаў у рамках правядзення рэгіянальных тураў праекта «Яе свет, яе правілы».

Праграма «Яе Свет, Яе Правілы» стартавала вясной 2019 года і накіраваная на падтрымку, прасоўванне дзяўчат і жанчын у еўрапейскай баскетбольнай супольнасці.

Адбор адбыўся ў шасці рэгіёнах Беларусі ў снежні 2019 года. Удзельніцамі лагера, які праходзіў у Мінску ад 10 да 15 студзеня 2020 года, сталі 27 перспектыўных баскетбалістак 2007-2008 гадоў нараджэння.

Сярод 27 баскетбалістак аказаліся дзве спартсменкі са Смаргоні – **Валерыя Лукашэвіч** і **Алеся Талькоўская**.

**Настасся УТКІНА.**

## Жаночая зборная Беларусі ўзяла бронзу чэмпіянату Еўропы па канькабежным спорце

Жаночая зборная Беларусі выйграла бронзавыя медалі ў камандней гонцы пераследу на чэмпіянаце Еўропы па канькабежным спорце, які завяршыўся ў Херэнвене.

**Таццяна Міхайлава**, **Марына Зуева**, **Яўгена Вараб'ёва** і **Ганна Ніфантава** паказалі вынік 3 мінуты 5,47 секунды. Перамаглі прадстаўніцы Нідэрландаў, серабро ў расіянак.

Сярод мужчын вызначыліся беларусы – **Віталь Міхайлаў**, **Ігнат Галавацюк** і **Ягор Дамарацкі** занялі 5-е месца.

**Паводле belta.by.**



Вячаслаў Герашчанка ў часы кіравання футбольным клубам «Гомель».

Фота: by.tribuna.com.

# Герашчанка стаў галоўным трэнерам ФК «Смаргонь». Што гэта за спецыяліст?

**Вячаслаў Герашчанка афіцыйна стаў трэнерам смаргонскай каманды. Працоўныя дамовы са спецыялістам разлічаныя да канца 2020 года.**

З першых дзён працы ў «Смаргоні» новы трэнер заняўся камплектаваннем новага складу смаргонскай каманды. Па папярэдніх дадзеных, да старту футбольнага чэмпіянату ФК «Смаргонь» правядзе 13 таварыскіх гульняў. Першы спарынг запланаваны на 1 лютага.

### Гуляў у Беларусі, Расіі і нацыянальнай зборнай

Вячаслаў Герашчанка родам з Магілёва. Там пачынаў прафесійную футбольную кар'еру – у магілёўскім «Дняпры» ў 1988 годзе ў амплуа паўабаронцы. У 1992 годзе разам з клубам «Дняпро» стаў сярэбраным прызёрам чэмпіянату Беларусі. За сем год у беларускім футболе змяніў чатыры клубы. Пасля «Дняпра» гуляў за два магілёўскія – «Сельмаш», «Тарпеда». Таксама абараняў колеры бабруйскага «Шынніка».

У 1995 годзе з'ехаў гуляюць у Расію. У «Чарнаморцы» з Новарасійска правёў чатыры сезоны.

**У 2000-м падпісаў кантракт з маскоўскім ЦСКА, аднак згуляў за каманду толькі дзевяць матчаў. Герашчанка завяршыў 2000 год у складзе мазырскай «Славіі», з якой стаў чэмпіёнам Беларусі.**

Пасля гуляў за «Уралан» і «Нафтан». Скончыў кар'еру ў другой лізе ў складзе магілёўскага «Савіта».

Герашчанка ад 1997 да 2004 года выступаў за нацыянальную зборную Беларусі. За галоўную каманду краіны футбаліст правёў 19 гульняў.

### Пачатак трэнерскай кар'еры

У 2006 годзе пачаў трэнерскую кар'еру ў магілёўскім «Савіце». Пасля спынення існавання клуба перайшоў у 2009-м на працу ў БАТЭ, дзе быў трэнерам каманды дублёраў.

У верасні 2011 года Герашчанку прызначылі галоўным трэнерам магілёўскага «Дняпра». На той момант клуб займаў апошні радок турнірнай табліцы вышэйшай лігі. Герашчанка не змог выправіць сітуацыю, нават нягледзячы на тры перамогі ў апошніх турах. Такім чынам, «Дняпро» апусціўся ў першую лігу. У наступным сезоне «Дняпро» гарантаваў вяртанне ў элітны дывізіён.

**Такім чынам, праз 20 гадоў ужо ў якасці галоўнага трэнера стаў чэмпіёнам Беларусі (толькі ў першай лізе) з адным і тым жа клубам.**

У сезоне-2013 магілёўская каманда паказала нестабільную гульню, таму Герашчанка пакінуў пасаду галоўнага трэнера.

### Катэгорыя PRO і легіянер-трэнер на паўгода

У 2015 годзе ўвайшоў у трэнерскі штаб «Оршы». У студзені 2015 атрымаў трэнерскую ліцэнзію катэгорыі PRO.

**У пачатку 2016 года стала вядома, што Герашчанка папоўніць склад новага трэнерскага штаба бабруйскай «Белшыны» ў якасці галоўнага трэнера дубля.**

У красавіку таго ж года яго прызначылі выканаўцам абавязкаў галоўнага трэнера. Заставаўся на гэтай пасадзе да ліпеня.

У жніўні 2016 года стаў галоўнам трэнерам «Ліды», якую прывёў да шостага месца ў першай лізе. У тым жа годзе ўзначаліў «Гомель». Па выніках сезона-2017 каманда заняла дзясятае месца ў вышэйшай лізе. У снежні таго ж года прадоўжыў кантракт з гамяльчанамі, але наступны сезон атрымаўся няўдалым. Таму ў маі 2018-га Герашчанка па пагадненні бакоў пакінуў клуб.

**У студзені 2019 года зноў узначаліў «Ліду». Аднак у ліпені разарваў кантракт па пагадненні бакоў і неўзабаве стаў галоўным трэнерам літоўскага клуба «Паланга».**

У верасні 2019 года пакінуў літоўскую каманду. У снежні стала вядома, што «Палангу» панізілі ў класе з-за дамоўных гульняў, аб гэтым паведаміў «Прэсбол».

**Настасся УТКІНА.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Персанаж ваўка з «Кнігі джунгляў» Кіплінга.
5. Элемент, дзякуючы якому наша кроў мае чырвоны колер.
7. Каб падчас ежы талеркі не слізгалі па стале, на караблі на стол клалі гэты прадмет толькі мокрым.
9. Гэты гатунак называюць каралём сыроў.
11. Раптоўны напад, уварванне.
12. Рака, у басейне якой ляжала Тураўскае княства.
13. Лацінская назва медзі паходзіць ад назвы гэтага вострава. Менавіта там упершыню пачалі выплаўляць медзь.
15. Адсутнасць небяспекі.
16. Будаўнічы матэрыял, атрыманы з зацвярдзелай сумесі пяску, шчэбеню, гравію.
20. Павозка, якая прычэплівается да самаходнага транспарту.
21. Процілеглае зло.
22. Уладзімір Някляеў: «Глыбока ў студні боўтнецца ... Затархаціць пашчэпаная корба... Адзін глыток – і існуе дабро, І жыць на свеце хораша і добра».
23. Першая згадка пра гэты беларускі горад Віцебскай вобласці – у 1065 годзе.
25. Орган дыхання ў чалавека і пазваночных жывёл, размешчаны ў грудной поласці.
26. Ватападобнае валакно, якое ідзе на выраб пражы, цэлюлозы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Жаданне, замысел.
3. Някемлівы, няўмелы чалавек.
4. Вераломства.
6. Да 23 студзеня 1936 года гэты напой называлі казённым вінам.
8. Высокагатунковае марожанае з арэхамі, ягадамі, шакаладам.
10. Пісьмовае або вуснае пагадненне, умова аб узаемных абавязацельствах.
12. Дадатны бок, перавага.
14. Агнястрэльная зброя з кароткім ствалом для стральбы на кароткую адлегласць.
16. У антычнай міфалогіі і некаторых рэлігіях – бажаство жаночага полу.
17. Страва беларускай кухні з мукі, яек, масла і малака.
18. Шматтонны грузавы аўтамабіль, які выпускаецца Беларускім аўтамабільным заводам.
19. Выражае прасторавыя адносіны: ужываецца пры абазначэнні прадмета, асобы, на верхнюю частку якіх ці паверх якіх накіраванае дзеянне.
24. Пра значную адлегласць.
27. Асобны гук пэўнай вышыні ў музыцы і спевах.
28. Сярод маракоў гэта слова значыць «слухай».

## Адказы на крыжаванку з №2

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Проста. 4. Джаз. 5. Праца. 10. Валет. 11. Пацеркі. 13. Вымя. 15. Тасманія. 16. Культура. 17. Нафта. 19. Біўні. 22. Неаліт. 23. Казінец. 25. Зычны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Ніколі. 2. Прывід. 3. Загар. 6. Вышук. 7. Наяве. 8. Завіток. 9. Вадзвіль. 12. Пастка. 14. Марс. 18. Яблыкі. 20. Барселона. 21. Зазімак. 22. Нясушка. 24. Вершы.



## ГАРАСКОП НА 17-23 СТУДЗЕНЯ


**АВЕН.** На новым месцы нейкі час вас будуць успрымаць як чужога. Магчымая невялікая канфрантацыя. Каб захаваць адносіны, пазбягайце рэзкіх заяў. Будзе складана з блізкімі людзьмі – вашы інтарэсы будуць супрацьлеглыя.


**ЦЯЛЕЦ.** Самае важнае ў гэты перыяд – вылучыць з кола насычаных падзей тыя, якія самыя важныя для вас. Хутчэй за ўсё, спатрэбіцца саступаць. У сардэчных справах усё будзе залежаць ад вашых учынкаў. Пастарайцеся быць мілымі ў размовах з партнёрам.


**БЛІЗНЯТЫ.** Важныя перамовы перанясуць на позні тэрміны. Дазвольце лёсу расставіць прыярытэты. Сямейным людзям варта чакаць невялікіх staноўчых перамен. Калі вы пакуль не знайшлі пару, чакайце нагоду для радасці.


**РАК.** Справы, якія вы будзеце рухаць наперад, не будуць паспяваць за вашымі пажаданнямі. Спатрэбіцца ўпэўніцца, што ніхто з удзельнікаў працэсу не прапускае вашы словы. Выдатны момант, каб пачаць нешта новае і сур'ёзнае.


**ЛЕЎ.** Вам неабходна праявіць свае стратэгічныя здольнасці. Адкажыце сабе на два самыя галоўныя пытанні – і зразумееце, што рабіць далей. Сплануйце адпачынак, вам трэба па-сапраўднаму аднавіць сілы.


**ДЗЕВА.** У гэты перыяд не будзе моцных перамен. Удача будзе на вашым баку, так што імкніцеся яе скарыстаць. Калі ў вас няма партнёра, вельмі верагодна, што чакае поўнае любоўных прыгод падарожжа. Дазвольце сабе атрымаць асалоду.


**ШАЛІ.** Часцей усміхайцеся і будзьце клапатлівыя да блізкіх. У канцы перыяду зможаце расказаць іншым пра тую творчую задуму, якую выношваеце апошні час. Пастарайцеся адшукаць падыходы, якія дапамогуць перадаць думку іншым. У асабістым жыцці магчымая сустрэча з былым каханнем.


**СКАРПІЁН.** Спрыяльны перыяд, калі можа напаткаць доўгачаканая прапанова. Для вас надзвычай удала размешчаныя планеты, што дазволіць бязмежна паверыць у свае сілы. Карыстайцеся магчымасцю.


**СТРАЛЕЦ.** Вас цалкам паглынуць справы. Варта аддаць працы, таму што чым больш вы ўкладзяце ў яе, тым больш аддачы атрымаеце. Вы не будзеце ва ўсім згодныя з блізкімі, але паўплываць на сітуацыю не зможаце. На выхадных варта выдзеліць час на спатканне.


**КАЗЯРОГ.** У вас рыхтуюцца ідэі, якімі хочацца падзяліцца. Але дачакайцеся, пакуль прадумаеце ўсе моманты. У асабістых адносінах варта давярыцца інтуіцыі. Пастарайцеся паразмаўляць з далёкімі сваякамі.


**ВАДАЛЕЙ.** У гэты перыяд самым паспяховым рашэннем для вас будзе супрацоўнічаць. Магчыма, варта раздзяліць шэраг абавязкаў з партнёрам – гэта значна аблегчыць жыццё. Калі захочацца пяшчоты, спачатку аддайце яе, пасля чакайце таго ж у адказ.


**РЫБЫ.** За клопатам пра розныя справы і дарагіх людзей не забывайце клапаціцца пра сябе. Абавязкова арганізуйце вечар, калі вы зможаце заняцца тым, што важна для вас. Няхай гэта будзе рабочае пытанне, спатканне або проста адпачынак.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | | | | 3 | | 1 | |
| 1 | | 7 | 5 | | 2 | | | |
| 4 | | 8 | | | 7 | | 3 | |
| | 1 | 6 | | | | 9 | 4 | |
| 9 | | | 4 | 1 | | | | 7 |
| | | | 2 | | 6 | | 8 | |
| | | 5 | | 3 | | | | |
| | | 9 | 8 | | 4 | | | |
| 8 | 2 | | | | | | 7 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета.

Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RC_RHBY




● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Мне падабаецца мая праца за свабодны графік. Захацеў – прыйшоў у пяць раніцы. Захацеў – сышоў у 12 ночы. А захацеў – увогуле не пайшоў… дадому.

***

Сын робіць урокі. Да яго падыходзіць бацька, гладзіць па галаве:

– Старайся, сынок, кручкі пішы акуратна. Тады можа і літары навучышся пісаць.

– Гэта не кручкі, тата! Гэта інтэгралы!

***

З тлумачальнай запіскі: «Я не прыйшла на працу 2 студзеня, таму што думала, што прыйшла».

***

Сёння вычытаў, што археолагі падчас раскопак знайшлі прылады працы 10-га стагоддзя да нашай эры. Толькі ўявіце, яшчэ ў 10-м стагоддзі да нашай эры людзі закапвалі прылады працы, каб нічога не рабіць.

***

Вяселле было ціхае. У рэстаране працаваў бясплатны wi-fi.

***

– Алё! Гэта я ў морг патрапіў?

– Не, пакуль толькі патэлефанавалі.

***

– Не ўяўляю, як я буду працаваць да 65 год, калі ў свае 28 пайшоў на кухню і забыў, навошта.

***

– Алё, гэта курсы па павышэнні інтэлекту?

– Так, вы правільна звярнуліся. На нашых курсах вы ўсяго толькі за паўмесяца зможаце павысіць каэфіцыент свайго інтэлекту на 40-50 адзінак.

– Вы сур'ёзна? Але гэта немагчыма…

– Вось бачыце? Вы яшчэ не пачалі ў нас займацца, а інтэлект ужо расце!

## Чытайце праз тыдзень:

- «Рэгіянальная газета» пачала ўзнагароджваць пераможцаў штогадовай акцыі «Асоба года». Сярод іх – маладзечанка Ірына Тархан. Яна перамагла па выніках галасавання, якое мы праводзілі на сайце. У наступным нумары пераможца раскажа, як пасябраваць з суседзямі і зрабіць свой двор самым крэатыўным у Маладзечне.

## 18 студзеня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 4-5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -22°С у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +7,3°С у 1993 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,5 мм у 2000 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Калі апошні раз вы былі ў паліклініцы?



**Вадзім Шкет, слесар, Маладзечна:**

– Быў у паліклініцы шэсць месяцаў таму. Звычайна звяртаюся да доктара, а не лячуся самастойна.



**Вераніка Новаш, выхавальніца, Куранец:**

– Апошні раз была ў паліклініцы год таму на медыцынскім аглядзе. Рэдка хварэю, а калі хварэю, то лячуся сама.



**Міхаіл Сяляўка, машыніст-качагар, Кавалі:**

– Быў у канцы лістапада ў паліклініцы. Я не хварэю, чакаю Вадохрышча і пазітыву на ўвесь год. І ўсім жадаю не хварэць.



**Анастасія Мішакова, гаспадыня, Маладзечна:**

– У большасці выпадкаў лячуся сама, а апошні раз наведвала паліклініку на гэтым тыдні.



**Валянціна Мамай, пенсіянерка, Вілейка:**

– У паліклініцы была ў красавіку 2019 года, праходзіла медкамісію як кіроўца. А так не хварэю. Самалячэннем не займаюся.



**Таццяна Шпаковіч, інжынер, Вілейка:**

– Хадзіла ў паліклініку месяц назад. Пераважна лячуся сама, калі толькі хварэе дзіця і патрэбны бальнічны, то ў такім выпадку звяртаюся.



**Сняжана Рагачэвіч, загадчыца крамы, Маладзечна:**

– Была ў зубнога два месяцы таму. Я лячуся сама звычайна. За 25 гадоў працы была на бальнічным толькі два разы.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).

№3 (1290) 17.01.2020. У розніцу – цана свабодная.

Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.

Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.

Зак. 76. Падпісана ў друк у 9.00 16.02.2020.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.

Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**

Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**

E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**

Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.

Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.